ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

16 ЛЮТАГА 1996 г. № 7 (3831) Кошт 2 500 руб.







*На сцэне — юная цымбалістка Аксана ХАХОЛ (клас Я. Гладкова).*

## "ГАВАРЫЦЬ ПРА ГЭТА — МАЛА..."

Мінулым летам Міністэрства юстыцыі зарэгістравала яшчэ адну рэспубліканскую грамадскую арганізацыю. Першы яе крок — Зварот да дзяржаўных, недзяржаўных і камерцыйных структур, дзе, прынамсі, адзначалася: "Гаварыць пра тое, што мову, культуру народа трэба ратаваць і ратаваць неадкладна, — мала. Трэба дзейнічаць. Трэба кожнаму рабіць і зрабіць тое, што ён можа, на што ён здольны".

Такім чынам новая арганізацыя "Фонд Падтрымкі Беларускай Культуры" вызначыла сваю мэту: развіццё і адраджэнне беларускай культуры, аказанне рэальнай падтрымкі дзеячам культуры і мастацтва. Пры гэтым — скіраванасць матэрыяльнай дапамогі зусім канкрэтным асобам: за талент, за мужнасць, за бескарыслівасць.



*Навучэнец ліцэя Яўген ЛЯТЭ (клас М. Волкава).*

І вось малады фонд зрабіў яшчэ адзін крок. Прызначаны першыя стыпендыі — юным таленавітым піяністам, навучэнцам Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі Любе Янпольскай (клас В.Рахленкі) ды Дзянісу Маслюку (клас А. Гужалоўскай). Уручэнне пасведчанняў стыпендыятам адбылося 3 лютага. Атмасфера, у якой адбывалася гэта ўрачыстая акцыя, была надзвычай годная, узнёслая, сімвалічная: на сцэне Вялікай залы Беларускай дзяржаўнай філармоніі ладзіўся канцэрт выдатнага калектыву — Камернага аркестра рэспублікі з даравітымі салістамі — навучэнцамі ліцэя.

Прэзідэнт ФПБК дырэктар фірмы "БСФ" А. Бараноўскі, дырэктар фонду Б. Святлоў і дырэктар Рэспубліканскага ліцэя пры БАМ У. Кузьменка паразумеліся ў сваіх памкненнях — спрыяць станаўленню і развіццю таленавітай моладзі ў сённяшніх жорсткіх для культуры варунках. Першыя крокі новага фонду зроблены насустрач тым, хто робіць свае першыя крокі на вялікай музычнай сцэне, і ў слушнасці гэтых дабрачынных крокаў пераканала сама канцэртная праграма — высокамастацкая, натхнёная. За сумленнасць наступных крокаў фонду можна не хвалявацца, пакуль у яго праўленні такія вядомыя ў краіне асобы, як *Таіса Бондар, Сяргей Законнікаў, Алесь Каско, Валеры Маслюк, Міхась Пташук, Уладзімір Тоўсцік, Аляксандр Шабалін* ды іншыя дзеячы нацыянальнай культуры і адукацыі.

**С. Б.**



*Пасведчанні першых стыпендыятаў фонду атрымліваюць Дзяніс МАСЛЮК ды Люба ЯНПОЛЬСКАЯ.*

*Фота Віт. АМІНАВА*

Меркаванне

# КРОК ЗА КРОКАМ...

З абвяшчэння суверэнітэту і незалежнасці Рэспублікі Беларусь пачаўся этап практычнай рэалізацыі "Закона аб мовах у Беларускай ССР" у цэлым і, у прыватнасці, яго 24 артыкула, які вызначаў беларускую мову ў якасці мовы навучання і выхавання ў агульнаадукацыйных школах Беларусі. Адначасова з гэтым акты-візаваліся групоўкі, якія паставіліся непрыхільна і нават варожа да гэтага абавязковага атрыбута незалежнасці дзяржавы. Няма патрэбы ўзнаўляць у памяці ўсю тэхналогію дзеянняў антыбеларускіх сіл. Большую цікавасць выклікае гупка людзей, якія ніколі не "засвяціліся" на мітынгах, не стаялі ў пікетах і нават не дэманстравалі сваё красамоўства з парламенцкіх трыбун, а абмяжоўваліся сваёй злучнасцю з цішыней і афіцыёзам урадавых, міністэрскіх і выдавецкіх кабінетаў. Менавіта яны, падчас нават не выходзячы са сваіх службовых пакояў, цішком выравалі лёс беларускай мовы. Гэта яны налаўчыліся прадстаўляць штучна арганізаваны антыбеларускі лямант "чалавека з вуліцы" за волевыказванне народа. Самыя вялікія здабыткі ў гэтай справе належаць чыноўніцка-адукацыйным "трудзяшчымся" ўсіх рангаў.

Яшчэ ў 1992 годзе, калі было выгадна рапартаваць аб дынаміцы росту беларускіх школ і класаў, у Міністэрстве адукацыі Беларусі зрабілі стаўку на вядзенне двайстай гульні. З аднога боку, нібыта стваралі канцэпцыю нацыянальнай школы, што дыктавалася атмасферай дэмакратызацыі Беларусі, а з другога, у больш вытанчанай, прыхаванай форме, узнаўлялі русіфікацыю ў сістэме школьнай адукацыі. Прыкладам можа быць гісторыя з выхадам кніжкі з лірычным назовам "Ручеек" ("Учебное пособие по русскому языку для I класса школ с белорусским языком обучения"). Па рэкамендацыі міністэрства яна была выдадзена масавым тыражом, між тым як афіцыйна руская мова ў беларускамоўных школах вывучалася толькі з 2 класа. Дарэчы будзе сказаць, што творы беларускіх пісьменнікаў у перакладзе там не прадстаўлены — гэта кніга па сутнасці для тутэйшых дзяцей. Ужо тады настаўнікаў і бацькоў бянтэжыў той факт, што ў той час, як звыш 70% першакласнікаў вучылася ў беларускіх класах, "Ручеек" быў выдадзены вялізным тыражом (120 тыс. асобнікаў).

Пачынаючы з 1994 года, калі адбылася змена кіраўніцтва нашай краіны, "Ручеек" ператварыўся ў шырокую раку русіфікацыі, бо Міністэрства адукацыі прыдало яму статус абавязковага падручніка. Крыху больш года таму на прыёме ў міністра адукацыі сп. В. Стражава бацькі, настаўнікі, выкладчыкі ВНУ задавалі яму пытанне аб падставах такога рашэння. Адказ быў кароткім — каб пазбегнуць дыскрымінацыі рускай мовы і навучыць дзяцей красамоўству. На контрпытанне — хіба красамоўства бывае толькі па-руску і ці не больш будзе лагічным, каб у беларускія класы "Ручеек" паплыў па-беларуску — сп. Стражаў сказаў, што могуць быць самыя розныя варыянты: па жаданні бацькоў першакласнікі могуць быць вызвалены ад вывучэння рускай мовы, прымусу не будзе. Але літаральна праз паўтара месяца "Настаўніцкая газета" (2 студзеня 1995 г.) выдрукавала "Вучэбныя планы агульнаадукацыйных школ", дзе прадпісвалася ўвядзенне рускай мовы з першага класа без усякіх выключэнняў.Праўда, па патрабаванні грамадскага камітэта абароны беларускай мовы ў Нацыянальным інстытуце адукацыі адбылося абмеркаванне вышэйзгаданых планаў. Рэзалюцыі па выніках абмеркавання не прынялі, і як паведаміў дырэктар гэтага інстытута, рашэнне будзе прынята ў рабочым парадку.

Скончыўся "рабочы парадак" тым, што сп. Валадзько (зараз ён намеснік міністра адукацыі) выступіў у друку з расплывістым абгрунтаваннем неабходнасці выпраўлення памылкі савецкага перыяду, бо руская мова тады пачынала вывучацца ў нацыянальных школах усё-такі не з I класа. А"Ручеек" у 1995 годзе перавыдалі яшчэ большым тыражом.

Наступным этапам вяртання да старой тэндэнцыі была паспешлівасць, з якой кінуліся ў міністэрстве прыстасоўваць вынікі майскага рэферэндуму да сістэмы адукацыі. Яшчэ не паспелі "завхозы" выканаўчай улады ўчыніць здзек над дзяржаўнымі сімваламі на ўрадавых будынках, як з міністэрства былі накіраваны прадпісанні ва ўпраўленні адукацыі, зместі якіх фактычна скасоўваў статус дзяржаўнасці беларускай мовы ў нацыянальнай школе. Быў створаны прэцэдэнт у сусветнай практыцы — надзяліць бацькоў правам выбару мовы навучання. Як забяспечваўся гэты "выбар" у 1995 годзе, сведчыць мноства парушэнняў, у тым ліку і канстытуцыйных, што выявіліся ў пераводзе вучняў адміністрацыйным шляхам з беларускай мовы навучання на рускую. Нават камуністычная фракцыя ў Вярхоўным Савеце (дэпутат В. Шчукін) запатрабавала ад Міністэрства адукацыі звестак і матывацыі гэтага пераводу.

Здаецца, завяршальным этапам кабінетна-адукацыйнай русіфікацыі з'яўляецца загад міністра адукацыі ад 15 лістапада 1995 г. (N 439) "Аб правілах пераводу, арганізацыі экзаменаў і выпуску вучняў агульнаадукацыйных школ Рэспублікі Беларусь". Сярод сухіх дзяжурных палажэнняў, якія рэгламентуюць перавод вучня з класа ў клас, вылучаюцца п.п. 27-28, што прысвечаны выпускным экзаменам у 11 (12 класах). Вызначана, што выпускнікі гэтых класаў будуць здаваць 6 экзаменаў, з якіх 4 абавязковыя, а 2 экзамены павінен выбраць сам вучань. Абавязковымі з'яўляюцца беларуская літаратура (вусна,) руская мова (пісьмова), замежная мова (вусна), матэматыка (пісьмова). Беларускую мову (пісьмова) як дзяржаўную мову, мову карэннага насельніцтва, міністэрскія распрацоўшчыкі змясцілі ў адну групу з другой замежнай мовай і мовай нацыянальнай меншасці, якія могуць быць абраны вучнем у якасці неабавязковага экзамену.

Тут, бадай што, прагледаецца тактыка "крок за крокам". Да 3-х абавязковых экзаменаў прыбаўляецца з гэтага года яшчэ адзін па рускай мове (дыктоўка), пры наяўнасці абавязковага экзамену па беларускай літаратуры (вусна). Фантазія міністэрскіх чыноўнікаў не пайшла далей узнаўлення да болю знаёмага савецкага варыянта выпускных школьных экзаменаў, дзе былі экзамен па беларускай літаратуры (вусна) і рускай мове і літаратуры (сачыненне). Хіба не лепшай ілюстрацыяй вынікаў такога правіла з'яўляецца і масавы чалавек з яго "нехлямяжай" мовай, і нават парламентарыі, міністры, кіраўнікі ўсіх рангаў з няведаннем беларускай мовы. Жывым прыкладам гэтага паўстаюць і асобныя работнікі Міністэрства адукацыі РБ, якія не ў стане звязаць нават два словы па-беларуску.

Усё пралічана падрабязна і на перспектыву: сфарміраваць у вучня стэрэатып у адносінах да моўных прадметаў. Вучнёўская ўвага будзе аднязначна скіравана ў бок рускай мовы, якая дырэктыўна вызначана міністэрствам у якасці экзаменацыйнай пры адначасовым грэбаванні роднай мовай (неэкзаменацыйнай). І пагэтаму, натуральна, і пры паступленні ў ВНУ абітурыент выбера (калі нават будуць прапанаваны дзве мовы) рускую, да якой ён лепей рыхтаваўся, а значыць, і ведае яе лепш.

Выступаючы на тэрміналагічнай канферэнцыі, сп. В. Стражаў паведаміў, што пры міністэрстве функцыянуе камісія па моўнай палітыцы. Але хто ўваходзіць у яе склад — засталося тайнай, невядомымі з'яўляюцца і аўтары навуковага абгрунтавання міністэрскага загаду. І толькі з тэлесюжэта, прысвечанага 70-годдзю загадчыка кафедры рускай філалогіі, прафесара БДУ П. Шубы, прыхільніка "двуязычия", можна было здагадацца, што менавіта ён дарадца паважанага міністра.

Прыняццю любога варыянта па выпускных экзаменах павінен папярэднічаць абмен думак спецыялістаў-навукоўцаў, настаўнікаў, шырокай грамадскасці — тым больш, што гэта пытанне не толькі адукацыйнае, але і палітычнае. На сустрэчы ў міністэрскім кабінеце ў снежні 1994 г. сп. Стражаў усім сваім апанентам, якія спрабавалі адстойваць адзінадзяржаўнасць беларускай мовы, без пярэстанку адказваў: "Гэта палітыка".

Няўжо шаноўны міністр не разумее, што, падпісваючы вышэйзгаданы загад, ён сам дзейнічае як спрактыкаваны палітык, які імкнецца трасфармаваць сённяшняе "двуязычие" ў экзаменацыйна-манапольнае аднамоўе рускай мовы? Узнікае пытанне, чаму ў міністэрстве, калі нават там кіруюцца вынікамі майскага рэферэндуму (а не Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь), вырашылі за бацькоў тых вучняў, якія выказаліся за адзінадзяржаўны статус беларускай мовы? Чаму міністэрства парушае мае бацькоўскія і канстытуцыйныя правы, змушаючы маё дзіця здаваць экзамен па рускай мове, якая не з'яўляецца роднай для нашай сям'і і не з'яўляецца адзінадзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь?

Пазіцыя па гэтым пытанні Міністэрства адукацыі павінна выклікаць заклапочанасць усіх, каму неабыякава будучыня Беларусі.

**Мікола АНЦЫПОВІЧ**



*Фота С. БРУШКО*

# ТРАСЯНКА — САМАЯ ПАПУЛЯРНАЯ МОВА

Як вядома, яшчэ ў старажытныя часы ўзнікла мова, якая, дзякуючы іншасказанню, змагла нават ва ўмовах цэнзарскага гнёту садзейнічаць развіццю публіцыстыкі, крытыкі і нават мастацкай літаратуры. Паводле прозвішча свайго "заснавальніка" завецца яна Эзопавай. У далейшым унёсак у справу развіцця гэтай мовы зрабілі такія спадары і таварышы, як Лафантэн, Крылоў, Шчадрын, Маякоўскі, Оруэл, Крапіва, Мрый, Вайновіч і іншыя. Варта нагадаць, напрыклад, такое вершаванае выказванне Маякоўскага:

**Мы говорым Ленін —**
**подразумеваем —**
**партыя.**
**Мы говорым партыя —**
**подразумеваем—**
**Ленін.**

Нягледзячы на тое, што жывём мы ва унікальную эпоху, у развіцці Эзопавай мовы цяпер назіраецца застой. Могуць запярэчыць, што моў не толькі хапае, а і занадта (трасянкавая, нецэнзурная, партыйная і шмат іншых). Але яшчэ старшыня Мао сцвярджаў: чым больш кветак, тым лепш. Жадаў, каб квітнелі сотні раслін (потым непажаданыя можна назваць пустазеллем і... вынішчыць).

На шляху да авалодання новаю мовай для некаторых сустрэнуцца і цяжкасці. Не ўсе ж могуць чытаць паміж радкоў і правільна разумець. Патрэбны ўсенавуч.

Але практычна: ці трэба новая мова? Думаю, што яна нам спатрэбіцца. Уявіце сабе такое: да ўлады прыйшоў таварыш-башы Мандарынаў. Яму не даспадобы ні культура, ні паводзіны тубыльцаў. Ён прыхільнік новага жалезабетоннага парадку. Палымяны інтэрнацыяналіст. Не ўспрымае і не трывае гумар. Абагаўляе цэнзуру.

Пісьменнікі тады не змогуць пісаць нават у стол. Бо стол будзе праглядвацца, ён стане празрысты, а творы апынуцца ў спецаддзелах, у кампетэнтных таварышаў.

Вось тут дапамагчы нам і зможа старажытная і заўсёды новая мова.

Аднак ці ёсць у нас кадры, здольныя зрабіць нейкі ўнёсак у развіццё гэтай мовы? Ёсць, і не так ужо іх і мала. Гэта байкапісцы, сатырыкі, вожыкаўцы, энцыклапедысты, гумарысты, фельетаністы, казачнікі, фантасты і прадстаўнікі іншых творчых цэхаў. Калі кожны з іх зробіць хоць бы мікраскапічны ўнёсак, мова будзе квітнець.

Для развіцця мовы спецыялісты складаюць метадычныя дапаможнікі, даведнікі, слоўнікі і іншае. У першую чаргу патрэбны слоўнік. У складанні яго могуць удзельнічаць усе жадаючыя. Потым усе прапановы можна аб'яднаць.

Прапаную для слоўніка некалькі дзесяткаў радкоў. Разумею, што гэта саматужная праца, не хапае кампетэнтнасці, лаконікі. Але ж некалі камусьці трэба пачынаць...

Абмежаваны кантынгент — вялікае войска для захопу суседняй краіны; аграрнікі — вярхі; адпіска — тое ж, што для дзіцяці цацка; башы — правадыр; беларускасць — нацдэмаўшчына; вертыкаль — назначэнні пад выглядам выбараў; двухмоўе — ужо не мара манкуртаў і каланізатараў; журналіст — пісака; закон — дышаль; Калыма — перспектыўны рэгіён для тутэйшых; кампрамат — зброя; камуністычная і дэмакратычная дзяржава — фантастыка; кансерватар — барацьбіт за светлае мінулае; кранік — штурвал; манкурт — патрыёт; наменклатура — вяршкі; нахабства — сучасны траянскі конь; народны рух ("движение") — пятая калона; папулізм — магутная зброя ў наш час; патрыёт — той, хто не трывае нацыяналістаў; страх — пачуццё, якое вельмі дапамагала будаваць светлае будучае; трасянка — самая папулярная мова.

**В. ЖЫДЦ**

*г. Бабруйск*

## "БД": ДРУГОЕ НАРАДЖЭННЕ

**Як вядома, дзякуючы Прэзідэнту Беларусі А. Лукашэнку інакш павярнуўся лёс навукова-тэарэтычнага і грамадска-палітычнага часопіса "Беларуская думка". З 1996 года заснавальнікам яго стала Адміністрацыя Прэзідэнта. Аб'ём "БД" павялічаны больш чым удвая і склаў 20 улікова-выдавецкіх аркушаў.**

**Аб накірунках гэтага выдання расказвае ў артыкуле "Другое нараджэнне "Беларускай думкі", змешчаным у першым нумары, яе галоўны рэдактар Уладзімір Вялічка. Ён таксама выказвае і спадзяваецца: "Калі "тоўсты" часопіс зробіцца настольнай кнігай кіраўнікоў, вучоных, педагогаў, аспірантаў, студэнтаў — словам, усіх неабыякавых людзей, то не выключна, што ўжо ў 1997-ым перыядычнасць будзе не 12, а 18 разоў на год".**

**У першым жа нумары са зваротам "Чытачам, аўтарам і супрацоўнікам часопіса "Беларуская думка" выступае і Прэзідэнт краіны. Ён, у прыватнасці, зазначае: "Перакананы, што часопіс зойме аб'ектыўныя пазіцыі ў асэнсаванні нацыянальнай гісторыі, будзе паказваць патрыятычныя і грамадзянскія памкненні народа зрабіць нашу мілую Беларусь краінай сапраўднай дэмакратыі і сацыяльнай справядлівасці.**

**Усебаковай падтрымкі заслугоўвае цікавасць "Беларускай думкі" да праблем духоўнага жыцця грамадства. З нумара ў нумар часопіс мае магчымасць друкаваць матэрыялы, што садзейнічаюць станаўленню маральнасці, ідэалаў дабра, прыгажосці, культуры чалавечых адносін як абавязковай умовы ўсебаковага развіцця асобы".**

**А нумар — досыць цікавы, багаты на самыя разнастайныя матэрыялы. У ім не абыдзены ўвагай пытанні літаратуры, мастацтва, культуры ў цэлым. Для прыкладу — змешчаны дакументальныя апяваданні І. Чыгрынава, публіцыстычны роздум У. Глушакова "Давайце любіць адзін аднаго", развагі галоўнага рэдактара кінастудыі "Беларусьфільм" М. Шэлехава "Супроцьстаянне...", адзначана 75-годдзе народнага пісьменніка Беларусі І. Шамякіна.**

## "ПОЛАЦАК", N 1

**"Маё шчырае віншаванне з Навагоддзем і святымі Калядамі чытачам і працаўнікам далёкага "Полацака", які нястомна нясе людзям Беларусі святое слова Праўды, так патрэбнае для Бога і для Душы. Шчасця ўсім вам і — трошачкі ўдачы!" — факсіміле гэтага віншавання народнага пісьменніка Беларусі В. Быкава ўпрыгожвае другую старонку першага за сёлетні год нумара клііўлендскага часопіса "Полацак". Змешчаны і іншыя віншаванні, у прыватнасці, верш Р. Барадуліна (таксама факсіміле).**

**Нумар досыць багаты на разнастайныя матэрыялы. Вось некаторыя з іх: "Змагарам Слуцкага збройнага чыну прысвячаецца" М. Ганько, "У гонар беларускіх змагароў" А. Старадарожскага, "Выбары" А. Менскага, "Каб сумесна будаваць незалежнасць Бацькаўшчыны" Я. Ханенкі, "Максім Гарэцкі — аблічча і рысы характару" Р. Гарэцкага, "Эмігрантаў друкуюць на Беларусі" Л. Лыча, "Мастацкая публіцыстыка Максіма Багдановіча" С. Белай, "Успаміны аб універсітэце Стэфана Баторыя" Ч. Найдзюка, "Некаторыя штрыхі да біяграфіі Уладзіміра Караткевіча" С. Анатольевай.**

**Друкуюцца вершы з новай кнігі М. Сяднёва, над якой працуе паэт. А на развароце нумара — партрэт Л. Геніюш. Дарэчы, апублікавана паведамленне, што збіраюцца грошы на помнік ёй, які маркуецца ўстанавіць у Зэльве.**

## ДЗЕЛЯ АДРАДЖЭННЯ І ЗГОДЫ

**70 гадоў назад, 3 лютага 1926 года, у Вільні пабачыў свет першы нумар штотыднёвіка заходнебеларускай грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты "Беларускае слова". Выходзіла яна да 9 лютага 1928 года, чытачы атрымалі 74 нумары. У полі зроку выдання былі і пытанні нацыянальнага Адраджэння. "Беларускае слова" адстойвала ідэю тэрытарыяльнай і нацыянальна-культурнай аўтаноміі Беларусі, змагалася за нацыяналізацыю царквы, далучэнне Заходняй Беларусі да Усходняй. Газета выступала супраць камунізму, прапагандавала грамадскую згоду паміж польскім і беларускім народамі.**

# СІМВАЛЫ ВЕЧНАСЦІ

## ПАМЯЦЬ

У творы літаратуры абавязкова ёсць тое, што зніта́ўвае яго ў адно цэлае. Можна сказаць — свая дамінанта. Яна выступае ў ролі вобраза або дэталі, якая паўтараецца; рэтраспекцыі, што вяртае ў мінулае; рэтардацыі, калі ў тэкст уводзяцца пазафабульныя элементы, і інш.

У трыпціху "Бацьку", "Куліна", "Матчына хата" Рыгор Барадулін вяртаецца ў маленства, апаленае вайною. Там — шчымліва-трывожныя дні, поўныя нечалавечых пакут і скупыя на звычайныя радасці.

Я разумею, што гэта нялёгка і адказна — у паэтычным радку ажывіць мінулае, што засталося далёка за рысай часу. Паэт мне ўяўляецца казачнікам, слову якога падуладна ўсё. Ён можа апусціць сваё чароўнае вядро ў глыбокі калодзеж, дзе затаіліся думкі і пачуцці дзяцінства.

Паволі круціцца корба. Вядро мякка апускаецца на дно, халоднае і таемнае. Плёскаецца вада, у якой — толькі прыгледзься — лапік блакіту, што над маёй галавою. Вядро пачынае падымацца на паверхню. Бясшумна і вельмі асцярожна, каб не расплюскалася жывая вада памяці.

Тры паэмы — як тры кругі вяртання ў маленства. Трапяткія, балючыя і светлыя адначасова.

Першы круг — гэта памяць пра бацьку. Як жывы ён паўстае ў радках паэмы. Паэт узнаўляе самыя дарагія яго рысы. Даюцца выразныя штрыхі, якія раскрываюць воблік бацькі, яго працавітасць і любоў да сына.

Памяць паэта, нібы фільтр, адбірае самае запаветнае з усяго, што звязана з бацькам; яна ўзбуйняе тое, што ў гады, калі той яшчэ быў жывым, здавалася нязначным, будзённым. Усё, да чаго дакрануўся родны чалавек, паэт саграваe сваёй памяццю і асвячае радком:

**Як свята,**<br>
**па вечарах**<br>
**Чакаў я з работы бацьку.**<br>
**Як сонца,**<br>
**зямлёю пах,**<br>
**Яго я здалёку бачыў.**

Мы бачым карцінкі ваеннага дзяцінства. З іх відаць, як цяжка было без бацькі, як востра адчувалася яго адсутнасць. Тым даражэй памяць.

З маці ён, хлапчук, пілуе дровы. З ёю агорвае ўсе беды. У такія моманты ў радках паэмы асабліва адчуваецца, што бацька далёка — і ён тут, паблізу. Ён зычыць дабра, яго слова, што раптам усплыве з небыцця, як падмога на жыццёвай дарозе.

У другім крузе памяці — паэма "Куліна" — бачым маці. Яе пяшчотны і светлы вобраз адлюстраваны ў прачулых радках. Паэт пазбягае дэкларатыўнасці. Яго любоў выяўляецца ў асобных эпізодах.

...Блакада. Немцы сціскаюць яе кальцо, нібы жалезныя пальцы на горле. Холад, голад і, здаецца, непазбежная смерць. Недзе ў лясной гушчы згубілася маці. Сын гукае:

— Ку-лі-на!..

І маці адгукаецца. Голас сына яна ўчуе, дзе б ні была, якое б гора ні лягло на яе кволыя жаночыя плечы.

Паэт робіць экскурс у глыб стагоддзяў, ён сягае да часоў Скарыны, каб ухваліць нашых мацярок. Ён са скрухай заўважае, што мы, цяперашнія, асветленыя асветай, усё радзей успамінаем іх, родных, што засталіся ў вёсках, чакаюць — не дачакаюцца нас...

Аўтар, апіраючыся на памяць, падымаецца да абагульненняў, як бы складае гімн Маці. Яе вобраз — і высокі, анёльскі, і просты, зямны — выведзены з рэчаіснасці.

Ад вобразаў маці і бацькі памяць лагічна вядзе ў хату, дзе нарадзіўся паэт. Невыпадкова трэці круг мае назву "Матчына хата".

Паэт, заглядваючы ў сваё дзяцінства, бачыць галоўнае — прыгажосць душы і веліч справы чалавека, што адухоўлены мэтай — рабіць дабро. Паэтызуючы матчына жытло, ён найперш складае шчырую песню пра яе, Куліну. Зноў мы сустракаемся з ёй. Цяпер — на рыштаваннях. Вайна спаліла хату. На папялішчы падымаецца новая. Праца яе, жанчыны, і сына-падлетка. Разам з імі — вянок за вянком — падымаемся і мы да вяршыні чалавечага духу, што не скараецца перад бядой і горам.

Здаецца, паэт мілуе кожны сучок у бярвеннях, што пахнуць летам, кожнае дрэўца ля веснічак. Ён захапляецца матчынай хатай, нялёгкай і светлай доляй яе.

Тым не менш смутак кладзецца на паэтычны радок, калі вяртаецца ў сённяшні дзень:

**Сялянка сціплая —**<br>
**матчына хата**<br>
**пры самай дарозе ўдавее.**

Але яна — у сэрцы, як часцінка жыцця, якую беражна трымае памяць сына.

...Вось і паднята з калодзежа вядро з гаючай вадой памяці. Я бяру кубак, каб зачэрпнуць яе. Бярыце і вы. Піце, каб далучыцца да самага чыстага, светлага і святога — памяці пра бацькоў.

## БОЛЬ

Ён, спакойны і разважлівы Журавель, які ўцяміў злыя намеры людзей, раптам развінуў свае крылы над сцэнай. Гледачы, бы знямелі. Але птах, спужаны рэхам далёкага розгаласу, што выдаваў за землятрус, падняўся ўверх. Тужлівы крык абудзіў наваколле...

Я, як і іншыя, хто быў у зале, глядзела яму ў след. Са шкадаваннем, што нечакана птах пакінуў нас, і з надзеяй на абавязковае і хуткае вяртанне.

Вось такая птушка, адначасова сапраўдная і ўсё ж створаная фантазіяй паэта, спаткалася ў першым раздзеле паэмы Сяргея Законнікава "Чорная быль". Народжаная жахлівым вечарам 26 красавіка 1986 года, яна па волі аўтара стала вешчуном падзеі, што скаланула нас усіх, што пакінула незагойныя раны на маёй зямлі.

Паэма — пра трагедыю, якая рэхам сваім будзе адгукацца ў сэрцах многіх пакаленняў. Кожны радок твора пранізаны болем. Фізічным, які разбурае жывы арганізм, і тым, што сточвае духоўныя сілы, кідае часам у роспач і адчай, але і кліча быць цвёрдым, не дае зламацца.

Паэма — пра нас усіх, пра сістэму, якая прывяла да самавынішчэння людзей. Пра Жураўля, што з глухім, трывожным крыкам пралящеў над маёй зямлёй. Пра ўсё жывое, што пранізаў і пранізвае на ёй жахлівы боль. Часам мне падаецца, што ён, той боль, — галоўная дзейная асоба паэмы.

Адразу заўважу, што паэт не павышае свой голас да штучнай пафаснасці. Нават калі асуджае, гневаецца, ненавідзіць. Наадварот, ён вельмі сцішана, вельмі стрымана апавядае пра тое, што вярэдзіць нашы душы. Ён не дае волі ўласным пачуццям. Ён толькі выказвае Праўду, якая крывавіць і тым самым выклікае нясцерпны боль.

У паэме — шэраг вобразаў, якія нясуць у сабе задуму аўтара. У іх рэалізоўваецца яна мастацкімі сродкамі. Створаныя майстэрствам паэта, яны, гэтыя вобразы, падымаюцца да ўзроўню сімвалаў, якія ўзрушваюць сілай мастацкай праўды і абагульнення.

Паэт спрабуе шукаць карані трагедыі — па-мастацку даследуе розныя пласты рэчаіснасці. У першым жа раздзеле "Выбух" выяўляюцца

# "І ТУЗАЕЦЦА БЕДНЫ КАРАБЕЛЬ..."

Я ведаю паэтку, якая шчыра ганарыцца тым, што ніколі не пісала так званых грамадзянскіх вершаў, — нават тады, калі іх наяўнасць была пропускам у "вялікую літаратуру". Разам з тым усіх, хто мэў ахвоту або неасцярожнасць час ад часу прамаўляць "голасам трыбуна", яна гэтак жа пераконана лічыць прытворшчыкамі і прыстасаванцамі, а іх прадукцыю — не вартай звання паэзіі.

Што на гэта сказаць? І чаму мне раптам успомніліся гэтыя мо ў запале прамоўленыя словы? Штуршком стала нізка вершаў Мар'яна Дуксы ў "Полымі" (N 11 за 1995 г.) Разгледзім іх тэматычны зрэз: няўхільны рост цэн, сучасныя безгустоўныя забудовы з катэджаў, новыя парадкі ў пісьменніцкім доме творчасці... З пункту гледжання высакамернай лірыкі што рабіць у гэтай вузкай сацыяльнай прасторы сапраўднай паэзіі? Жаліцца і праклінаць? Канстатаваць факты? Клікаць у мінулае (па прыкладзе некаторых нашых празаікаў)? М. Дукса не робіць ні першага, ні другога, ні трэцяга. На грубым, будзённым, "антыпаэтычным" матэрыяле ён узводзіць годны, прыгожы гмах Паэзіі, дзе ёсць усё — праўда рэчаіснасці і яе мастацкае асэнсаванне, развага і жывое пачуццё, яскравыя дэталі і тая ступень абагульнення, без якой паэтычны малюнак ператвараецца ў асобныя каляровыя плямы або ў імпрэсіяністычныя замалёўкі (што, дарэчы, здараецца ў такіх неблагіх паэтаў, як В. Аксак, Э. Акулін, Л. Сільнова).

Паэт адчувае час і яго перамены як дыялектычны сплаў матэрыяльнага і духоўнага. На вачах мяняецца лад жыцця і сістэма каштоўнасцей, з'явіліся свае "багатыя і бедныя", паўсюль паўсталі відавочныя прыкметы сацыяльнай няроўнасці:

**Дзвярэй і вокан храмавы авал.**<br>
**Калі ўжо шчыра —**<br>
**штосьць не песціць вока**<br>
**антычнасці тутэйшай ранні шал,**<br>
**усё гэта раптоўнае барока.**

*("Эстэтыка катэджаў")*

**З ляснога замка музы адляцелі.**<br>
**Іх след прастыў. Няма — куды ні глянь.**<br>
**Якісь паэт — адна душа у целе —**<br>
**па ім блукае — сённяшняя здань.**

*("Дом творчасці 1995 года")*

У вершах М. Дуксы ёсць палемічныя ноткі ў звароце да палітыкаў ("Вы тузаеце з трыбун..."), ёсць самота і прыгнечанасць — звычайны стан нашага суайчынніка ("Ад цяжкіх думак..."). Фарбы падчас згушчаюцца, і тады ледзьве не Апакаліпсісам вее ад створанай карціны ўсеагульнага духоўнага распаду і матэрыяльнай нястачы. Ён не можа падабраць больш адпаведнага сітуацыі слова, як "бяда" (у чым, зноў жа, перабірае меру — і жыцейскую, і мастацкую). "Сярод звычайных жахаў і кашмараў", да якіх многія ўжо, скажам прама, адаптаваліся, ён адчувае сябе не лепшым чынам, але пры гэтым не азлобіўся, не стаў мізантропам:

**І самае цікавае:**<br>
**з любоўю**<br>
**на гэты свет**<br>
**асуджаны глядзець.**

Паэт адначасова і ўдзельнік жыцця, і назіральнік. Без некаторай дыстанцыі паміж рэчаіснасцю і сабою ён не змог бы прыкмячаць істотнае, тыповае, характэрнае для сённяшняга дня. Ён бачыць, што мяняецца не толькі свет вакол нас, — няўмольна мяняемся мы самі: "Адзін — распіўся, а другі — разбіўся, упаў пад колы, і расплюшчыў лёс..." Страчваюць усялякую цану інтэлект і талент, дэвальвуюцца чалавечыя душы:

**Узыходзіць сонца, выплывае зорка —**<br>
**душа пад імі стала ўжо глухой,**<br>
**стамлёная грашоваю гаворкай,**<br>
**засыпаная іншаю трухой.**

*("Што так немузыкальныя знутры...")*

## УШАНАВАННЕ МАЙСТРА



**Першы сёлетні літаратурны чацвер, што прайшоў у Коласавым доме, быў асаблівы. Прысвячаўся ён народнаму пісьменніку Беларусі, акадэміку Івану Шамякіну, які нядаўна адзначыў сваё 75-годдзе.**

**Юбіляра горача віталі дырэктар Коласавага музея Зінаіда Камароўская, даследчыкі ягонай творчасці акадэмік Віктар Каваленка і дацэнт Мазырскага педінстытута Галіна Дашкевіч. Яна падарыла Івану Пятровічу карціну, на якой гожа глядзіцца яе горад, прачытала верш-прысвячэнне.**

**Да слёз расчулілі юбіляра самадзейныя артысты з радзімы Якуба Коласа, праспяваўшы напісаную спецыяльна да свята песню і паднёсшы Івану Пятровічу вялікі каравай.**



**Прачулае слова пра юбіляра сказалі пісьменнікі Уладзімір Паўлаў, Алесь Рыбак, Мікола Татур, Алесь Савіцкі. Верш, прысвечаны Майстру, прачытаў Пятро Прыходзька. Хораша, натхнёна кампазіцыю нітавала ўрыўкамі з твораў пісьменніка любімая ў народзе артыстка Марыя Захарэвіч.**

**Юбіляра павіншавалі сын Якуба Коласа Міхась Канстанцінавіч і вучаніца 98-й сярэдняй школы г. Мінска Ала Сапун.**

**Сцяпан ІВАНЧЫК**

*Фота У. ГУЗОЎСКАГА*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**“Табе” — так проста і разам з тым сімвалічна назвала свой першы паэтычны зборнік, якому наканавана было стаць і першай кніжкай “Бібліятэкі часопіса “Маладосць” у сёлетнім годзе, Вольга Русілка.**

**“Табе” — гэта жаданне на давер адказаць даверам. “Табе” — імкненне да шчырасці і ўзаемаразумення. “Табе” — схільнасць да лірыкі пачуццёвай, якая абавязкова выклікае ў таго, хто далучаецца да яе, жаданне жыць у свеце, у якім шмат хараства, непаўторнасці, адным словам там, дзе пануе паэзія.**

**Невыпадкова ў адным з вершаў паэтэса прызнаецца: “Так патрэбна ласкавае слова”. Ласкавае і ў прамым сэнсе, і ў пераносным. Тое слова, якое абудзіць душу, ускалыхне яе...**

**Нарадзілася В. Русілка ў вёсцы Берты Шчучынскага раёна ў сям'і, дзе любілі літаратуру (маці яе таксама піша вершы). Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта настаўнічала ў Віцебску, потым вучылася ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі.**

**Цяпер кандыдат філалагічных навук В. Русілка загадвае кафедрай беларускай літаратуры Віцебскага універсітэта. З вершамі, а таксама з рэцэнзіямі, літаратурна-крытычнымі артыкуламі выступае ў рэспубліканскай перыёдыцы. І вось першая паэтычная кніга...**

Проза

Іван ПТАШНІКАЎ

# ІРГА́ КАЛАСІСТАЯ

ЭСКІЗ

*Арсену ЛІСУ*
*прысвячаю*

Чалавек нараджаецца, каб запаліць у Сусвеце зорку ці пакінуць на зямлі след.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Леапольд Іванавіч Родзевіч (Лёля) нарадзіўся 12 чэрвеня 1895 года на хутары ў Кур'янаўшчыне, тады Вілейскага павета Віленскай губерні. Ад маёй вёскі Задроздзе, а калі лічыць ад маёй канцавой хаты — можа, за паўвярсты праз балота.

Хата наша з добрага часанага сасновага бярвення з трысценем і варыўнёй, крытая саломай (згарэла ў сорак чацвёртым годзе летам, спалілі немцы ў апошнюю блакаду), стаяла ў канцы вёскі па дарозе з Сушкава ў Леснікі. Калі ісці ў Леснікі, у Ваўкаўні ля лесу, дзе хавалі на зіму ў ямы бульбу, трэба было ўзяць правей. Левы ж тор выводзіў лесам у Агульніцу, далей у Бярэзавец і праз Каралінскую пасеку вёў да ракі Віліі, за якой была Польшча.

Гэта — на паўночны бок Кур'янаўшчыны.

Калі скіравацць на поўдзень, мінаючы справа грэблю і вёску Сушкава, падацца праз аселіцу ў канцы гарода і перайсці ў брод нашу рэчку Дроздку (адсюль і Задроздзе), якая да нашай вёскі называлася Жоглаўкай, а далей, павіляўшы па балотах і па лесе, ужо Дроздкай упадала ў Вілію, і падняцца высокім берагам на Выганчык, ладны кавалак логу між крыніц, — выходзіш на Крайскі бок. Крайскі бок — і тады, калі нарадзіўся Родзевіч, і пазней, аж да нашых 60-х гадоў, — пракаветнае балота са старымі вольхамі, елкамі — гэта далей, пад Рэпішча-пушчу, — а тут, за Выганчыкам, травяністая твань з нізенькімі бярозкамі, ніцай лазой, гадзюкамі і вужамі, усё ў куп'і, парослым ліставатым вобаратнікам, журавіннікам, чаротам, асакой, рабінкай і мохам.

Ступіш пасля Выганчыка нагой, адразу правальваешся ў балота аж па калена, калышучы і выцягваючы наверх руды торф з бурбалкамі і праціўным рэзкім сырым пахам, ад якога круцілася ў галаве і блажыла. Па балоце было не прайсці, і на ім ляжалі кладкі. Па два ці тры альховыя бярвенцы, слізкія пад нагамі, як бог ведае што, не ступіць, каб не зляцець у твань, гарбаціліся праз увесь Крайскі бок да самай Кур'янаўшчыны, — якраз да першага Саду, дзе некалі і стаяла хата Леапольда Родзевіча.

Кур'янаўшчына — гектараў пяць воранай зямлі — была акружана вясковымі палямі і сенажацямі — лагамі і лажкамі — з усіх бакоў. З паўночнага захаду падыходзіла вёска Задроздзе са сваім Выганчыкам, на паўднёвы захад, калі пакінуць справа могілкі — Сушкава з Дваром і Малінаўкай, на паўднёвы ўсход — Хадакі, адкуль была родам маці Лёлі — Леапольда Гелена Яноўская, як пішуць. (Відаць, Гілена, бо Гелен у нас не было ні тады, ні цяпер. Толькі Гілена).

Далей гэтых вёсак на поўдні быў Крайск, дзе і канчаў пачатковую школу Лёля. Мястэчка тады вялікае, на нейкую частку яўрэйскае, з карчмой, крамамі, кузняй, майстэрнямі, смалакуркай, царквой... Яно стаяла якраз на тракце Барысаў—Зембін—Плешчаніцы—Вілейка—Даўгынава (у нас —толькі Даўгынава, а не Даўгінава)... Ва ўсіх гэтых мястэчках асядалі тады яўрэі — балаголы і рамеснікі. З Крайска добра быў відаць касцёл у Альковічах, — ягоны высокі шпіль у пагодныя дні можна было бачыць і з Кур'янаўшчыны — доўгай і тонкай, як дзіда, чорнай іголкай у небе.

Блізка Кур'янаўшчыны былі яшчэ вёскі Рагозіна, Грыневічы, Дзераўно, Краснаволле, Мяжанка, Стрый, Будзенічы, Баброва, — гэта па другі бок ракі Дроздкі. Па гэты бок — паўночны — Леснікі, Пагост, Жызнава, Даўгынава, Буслава...

Гэта тыя вёскі, якія ўпершыню пачуў і праз якія ўжо напэўна выходзіў з хутара ў “вялікі свет” малады Лёля з братам Чэсем, сёстрамі Янінай, Ядвіняй (у нас толькі Ядвіня, а не Ядвіга) і Марыляй (у нас толькі Марыля, а не Марыя, як цяпер пішуць)...

А, можа, і сыходзіў з дому адзін — ведаем, што ён быў скрытны і любіў адзіноту.

Кур'янаўшчына складалася як бы з двух хутароў-забудоў і двух садоў — недалёкіх адзін ад аднаго, можа, сажняў за стодзвесце.

Калі тут першыя пасяліліся гаспадары, адзін ці адразу двое — невядома. І хто быў той першы Кур'ян ці Кур'яновіч, што асеў у гэтым баку, даўшы назву Кур'янаўшчыне, ніхто не ведае. За маёй памяццю, дакладней, за памяццю маці — тут, у Кур'янаўшчыне, жылі два гаспадары.

Першы ад нас, ад Задроздзя, Родзевіч, другі, ад Хадакоў — Таразэвіч.

Сады — вярней тое, што ад іх асталося, — і цяпер яшчэ завуцца: Родзевічаў і Таразэвічаў.

Калі праз кладкі міналі балота з нізкарослым бярэзнікам, альшэўнікам і ніцай лазой, выходзілі на лажок з высокай летам мурожнай травой, з сажалкай, абсаджанай старымі ўжо вербамі. Вербы зрасліся ўверсе, і адной кронай хавалі ад сонца застаялую, парослую альдравандай і лопухам ваду. Сажалка некалі, відаць, была запруджана для рыбы; пасля ў ёй пад восень мачылі канаплі на пяньку.

Кур'янаўскія сады я добра помню недзе з 1937-га года, калі праз балота мы, хлапчукамі, дасягалі летам да іх. Ішлі збіраць падалкі — яблыкі і грушы, што ляжалі на зямлі. Атрасаць іх, залезшы на дрэва, нам у Родзевічавым садзе не даваў ужо новы тут гаспадар — стары Антось Ляшковіч. Мы збіралі дулі на зямлі — сочныя, жоўтыя, доўгія. Імі была ўсыпана ўся трава. Не ступіць... І стары Антось Ляшковіч дазваляў нам збіраць іх — хоць усе.

Калі і як памяняліся тут гаспадары — невядома. І ніхто ўжо са старых жыхароў дакладна не помніць. Кожны гаворыць сваё і рознае.

У Родзевічавай хаце ўжо ў тыя гады — за маёй памяццю — жыў Антось Ляшковіч. У Таразэвічавай — Андрэй Бохан. Адны кажуць, што гэта былі ранейшыя Родзевічавы арандатары Кур'янаўшчыны. Другія — што ўвесь абшар з пабудовамі быў імі куплены. Трэція — што Ляшковіча і Бохана як беззямельных і бедных пасялілі тут пасля рэвалюцыі. Людзей тых, хто быў сведкаю ўсяго гэтага, ужо амаль няма. Ды і трэба мець пад старасць добрую памяць, каб усё гэта помніць...

Можа, і ляжыць дзе ў архіве купчая ці іншая якая “грамата” на Кур'янаўшчыну, але мне нічога такога не траплялася.

Ехаць у Кур'янаўшчыну з нашага Задроздзя трэба было пракаветнай грэбляй, вузкай дарогай амаль з вярсту, загачанай на балоце альшэўнікам, бярэзнікам, карчамі і каменнем. Паабапал грэблі гнілі канавы са стаячай цвілой вадой, усягды засыпаныя лісцем. Калі ў канаву правальвалася карова — не кожную ратавалі.

Канавы двума ручаямі — адзін на Выганчыку, другі на Зурэччы, — сцякалі ўжо ля моста ў Дроздку. Ля вёскі праз Дроздку ляжаў мост — два доўгія сасновыя бярны ўпоперак ракі — а па іх удоўж дробны сасновы кругляк. Калёсы на мосце трасло, і ў вячэрняй цішыні іхні ляскат быў чуваць аж у Кур'янаўшчыне...

І ў другім канцы грэблі пад Сушкавам быў мост, але меншы: там з Кур'янаўшчыны цякла невялічкая рачулка, з каменнем на дне, курмялямі, жабамі і гадзюкамі — пераплывалі, высунуўшы з вады галаву, з аднаго боку ракі на другі.

За маленькім мастком перад Сушкавам дарога па калдобінах паварочвала налева, на лажок, парослы дзяцельніцай, мятліцай — гэта дзе вышэй, а ніжэй да балота — асакой, рабінкай, аерам, хвашчом, высокім, аж у пояс. Удоўж рачулкі дарога выводзіла на пагорак да старой рабіны і праз першы і другі сады вяла на Хадакі. Яна праходзіла ля самай Родзевічавай хаты, пад акном...

І цяпер там ляжаць вялізныя каменні ад фундамента, за якія восямі чапляюцца калёсы, і расце састарэлая, але вечна жывая ірга каласістая. У нашым баку яе завуць — заграні́чныя ягады. Высокая, метраў пяці, кусты, як вішаннік, лісце цёмна-зялёнае, увосень чырвона-аранжавае, расла яна пад акном у Родзевіча, адтуль, дзе сонца, ад Хадакоў. З пахнючым белым цветам — цвіце ў маі, гронкамі, з чорна-чырвонымі спелымі ягадамі — спеюць яны ўжо ў ліпені, — буйней рабіны, з прэсна-салодкім смакам. Заграні́чныя ягады паявіліся ў нашым баку ў адных Родзевічаў у Кур'янаўшчыне.

І цяпер яны там.



Сады — і першы Родзевічаў і другі Таразэвічаў — вымерзлі зімой у саракавым годзе — у Фінскую вайну. Не выстаялі ў саракаградусны мароз ні яблыні, ні грушы, ні слівы, ні вішні. Не адышлі і пасля, нават атожылле не пусцілі. Счарнелі, ссохлі... Трашчалі на ветры адмерлым суччам, крышыліся і падалі на зямлю. Людзі плакалі, гледзячы на іх...

Цэлымі засталіся толькі заграні́чныя ягады, грушы-дзічкі, рабіны і ліпы.

Ліпы раслі ля аднаго і другога котлішча, акружаючы і Родзевічаў і Таразэвічаў сады вялікімі квадратамі з алеямі, як і па ўсёй тады Беларусі ля вялікіх і маленькіх маёнткаў. І прыгажосць, і мёд, і зацішак ад ветру, і летні, такі патрэбны расяністы цень у самую гарачыню, калі і зямля нагрэта, як неба, калі сохне на Кур'янаўшчыне ячмень і на лажках ля балота гарыць торф.

І ў адным і ў другім садзе стаялі тады вялікія, з трысценем, хаты, і яшчэ большыя пуні. Ля іх — хлявы і свіронкі. І ля адной, Родзевічавай, і ля другой, Таразэвічавай сяліб у канцы лажкоў, пад балота, былі сажалкі — да сучаснай меліярацыі іх яшчэ можна было пазнаць: невысокія апалыя беражніцы, парослыя дзяцельніцай, лопухам і палыном.

Сама Кур'янаўшчына — вораная зямля — пачыналася ад Крайскага боку — балота і, пакідаючы справа Сушкава, цягнулася аж пад Хадакі, пад Асавок. Асавок быў ужо, лічы, логам, парослым сіўцом, пад'ядлоўцам, бярэзнікам і лазой...

Зямля добрай была толькі каля саміх хат, далей, пачынаючы ад Крыжа — Кур'янаўшчыну-поле перасякалі дзве дарогі, і на крыжаватцы пад трыма елкамі стаяў сасновы крыж — зямля была благая, супясчаная, камяністая, парослая пырнікам, рудзікам і каткамі. Пад Хадакі выворваўся жоўты пясок. Таразэвічаў сад сціскалі чарнабыльнік і палын. І лаза... Драбналістая, на выгляд прывялая, сухая, яна ўчэпіста трымалася за неўрадлівую Кур'янаўскую зямлю. Расла ля гародаў, ля дарог, ля сцежак, ля валуноў і на вялікіх крушнях камення, на якіх грэліся летам вёрткія шэранькія яшчаркі.

Ці не сядзеў дзе на валуне ля крушні камення побач з бацяном малы Лёля, збегшы з дому?..

Быў скрытны, паўторымся, задумлівы, адзінокі і шукаў яшчэ большую адзіноту і на так ужо адзінокім Кур'янаўскім хутары...

Вясна ў Кур'янаўшчыне пачыналася з вялікага сонца. Раніцай яно, чырвонае і блізкае, — адступілася ўжо на ўсход па замглёным небе ад Хадакоў, над якімі вісела ўсю зіму, адбеглася аж на Рэпішча-пушчу і пачынала там іграць праз калючыя далёкія яловыя дзіды...

Снег, за апошнія дні добра пад'едзены сонцам, ападаў, на полі пад Асаўком паяўляліся першыя ладныя чорныя праталіны; з начы яшчэ снег сцінаўся марозам, шэрань — каня ўтрымае. На сажалках з-пад лёду паяўлялася днём вада, хаваючы зімні снег і скоўваючы яго пасля чыстым-чыстым лёдам, — і дрэвы ў інеі, і сонца, выплыўшы з-за лесу, відаць у ім, як у люстэрку.

За тыдзень падтае і снег на полі і лёд у

# ПРЭМ'ЕРА — ЗАЎСЁДЫ ПАДЗЕЯ!

Завяршэнне каляндарнага года звычайна супадае з пікам канцэртнага сезона. Так здарылася і на гэты раз: у адзін са снежаньскіх вечароў у Вялікай зале філармоніі адбылася прыкметная падзея ў культурным жыцці Беларусі — прэм'ера Канцэрта для скрыпкі з аркестрам Яўгена Глебава.

Прызнаны майстар музычнага тэатра, аўтар мноства сімфанічных палотнаў, якія сталі класікай беларускай музыкі, Яўген Глебаў упершыню звярнуўся да жанру скрыпічнага канцэрта. Разам з тым новы твор уяўляе сабою арганічнае, натуральнае развіццё творчай манеры кампазітара: тут чуюцца і "водгукі тэатра" (інтанацыйныя алюзіі з балетаў "Ціль Уленшпігель", "Маленькі прынц"), і элементы джазавай стылістыкі, якія выходзяць з ранняга этапу творчасці кампазітара (балет "Мара", вядомыя эстрадныя кампазіцыі Я. Глебава 60—70-х гадоў).

У адрозненне ад моднай сёння тэхнікі калажа ў Скрыпічным канцэрце няма простага цытавання мелодый — гэта хутчэй аддаленыя рэмінісцэнцыі ўласнай творчасці, успаміны пра тыя творы, якія цяпер, на жаль, рэдка выконваюцца, але ў свой час сталіся значнымі вехамі беларускай музычнай культуры.

У гэтым сэнсе новую працу Я. Глебава можна разглядаць як нейкі вынік, рубеж у творчасці Майстра. Адначасова яна, безумоўна, — істотны ўнёсак у развіццё беларускага скрыпічнага канцэрта. Як вядома, у гэтым жанры нашымі кампазітарамі створана нямала цікавых і значных твораў: згадайма скрыпічныя канцэрты Пятра Падкавырава, Дзмітрыя Камінскага, Генрыха Вагнера, Рыгора Суруса, Галіны Гарэлавай.

Яшчэ з часоў Антоніа Вівальдзі ў еўрапейскай музыцы склалася традыцыя трохчасткавага скрыпічнага канцэрта, дзе дзве хуткія часткі абрамляюць сярэднюю павольную. Па гэтай мадэлі працавала большасць майстроў — ажно да XX стагоддзя, калі ўзніклі новыя, раней нязвыклыя формы інструментальнага і, у прыватнасці, скрыпічнага канцэрта.

Яўген Глебаў свядома адыходзіць ад устойлівай традыцыі і стварае форму канцэрта двухчасткавага. Музыка твора прываблівае шчырым лірызмам. Светлае, адкрытае ўспрыманне свету дамінуе ў першай яго часціны, ва ўступным раздзеле якой голас скрыпкі сола гучыць засяроджана і страсна, як унутраны маналог. Яму папярэднічае інтрадукцыя, насычаная маляўнічымі аркестравымі гучаннямі, яркімі каларыстычнымі эфектамі. Тут Я. Глебаў пацвярджае сваю рэпутацыю бліскучага майстра аркестравага пісьма, які цалкам валодае шырокім спектрам выяўленчых магчымасцей сучаснага аркестра.

Як заўсёды ў творчасці Я. Глебава, ёсць тут чароўны шчодры меладызм — тэмы першай часткі захапляюць сваёй прыгажосцю. Нельга не ўспомніць пры гэтым поўныя меладычнага багацця тэмы яго вядомых балетаў, найперш — знакамітае "Адажыо Розы і Маленькага прынца", якое зрабілася любімым нумарам у рэпертуары многіх салістаў-інструменталістаў і розных ансамбляў.

У адрозненне ад распеўнай, не пазбаўленай драматычнага пафасу, I часткі, фінал Канцэрта — гэта стыхія віртуознасці, пазначаная яркім скерцозным характарам. Але і тут часам узнікаюць астраўкі лірызму, як, напрыклад, дзівосная кантыленная тэма ў верхнім рэгістры скрыпкі.

Кампазіцыйную, архітэктанічную стройнасць твору надае вяртанне ў фінале (у партыі медных духавых) да інтанацый I часткі. Так будуецца своеасаблівая арка паміж пачаткам Канцэрта і яго фіналам.

У цэлым у музыцы новага твора Яўгена Глебава дамінуюць прастата і яснасць музычнай мовы. Але гэта ёсць тая прастата, якая, на думку Ё.-В. Гётэ, з'яўляецца доляй толькі сталага творцы і прыходзіць з вялікім жыццёвым і мастацкім вопытам. Гэтыя якасці ў Я. Глебава дзівосна спалучаюцца з душэўнай маладосцю, якая відавочна валадарыць у музыцы Скрыпічнага канцэрта.

Першым інтэрпрэтатарам твора стаў Леў Гарэлік. Прычым ён не толькі натхнёны выканаўца, а і, можна сказаць, сатворца, які ў многім інспіраваў з'яўленне гэтай прэм'еры. Міжволі ўспамінаецца гісторыя стварэння бліскучага Скрыпічнага канцэрта Ф. Мендэльсона. Яго сябар, знакаміты скрыпач Фердынанд Давід, у адным з лістоў звярнуўся да кампазітара: "Ну што табе каштуе напісаць скрыпічны канцэрт, а ўдзячнае чалавецтва доўга будзе помніць цябе..."

Як прызнаўся Леў Гарэлік, прыкладна з гэткімі ж словамі ён звярнуўся гады два назад да Яўгена Глебава. А потым стаў яго добрым дарадцам у працэсе стварэння Канцэрта. Кампазітар, жадаючы, каб яго музыка гучала і жыла, ахвотна і з удзячнасцю прыслухоўваецца да думкі першага выканаўцы.

Артыстычную манеру Льва Гарэліка заўсёды вылучалі яркасць, пераканаўчасць інтэрпрэтацыі, высокае прафесійнае майстэрства. Скрыпка знакамітага французскага майстра Вільома ў яго руках гучыць насычана, палётна, а тэхніка выканаўцы заўсёды бездакорная. У Скрыпічным канцэрце Я. Глебава інтэрпрэтатарская канцэпцыя была пераканаўча прадуманай, лагічна яснай, не пазбаўленай драматычнага пафасу.

Дарэчы, выдатны скрыпач Леў Гарэлік добраахвотна ўзяў на сябе высокую асветніцкую місію: за апошнія сорак гадоў сваёй артыстычнай дзейнасці ён выканаў усе хоць колькі значныя творы для скрыпкі беларускіх аўтараў мінулага і цяперашняга часу і запісаў іх у фонд Беларускага радыё. Так ён стварыў своеасаблівую анталогію беларускай скрыпічнай музыкі.

Дырыжор Віктар Собалеў арганічна ўключыў прэм'еру Канцэрта Я. Глебава ў праграму вечара сімфанічнай музыкі, дзе прагучалі таксама "Ноч на Лысай гары" М. Мусаргскага і Трэцяя сімфонія ("Боская паэма") А. Скрабіна. Паводле задумы дырыжора вобразная канцэпцыя праграмы павінна была развівацца ад "бесоўства" праз пранікнёны лірызм і скерцознасць да боскага экстазу скрабінскай кампазіцыі.

Прэм'ера, уключаная ў праграму, — твор Яўгена Глебава, мела ў слухачоў цёплы прыём. Гэта сапраўды падзея прыкметная, бо апошнім часам не надта часта мы робімся першымі слухачамі новых буйных музычных твораў.

**Ігар ВЯДЗЕНІН,**
**кандыдат мастацтвазнаўства**

# У ПЛАНАХ — СУПРАЦОЎНІЦТВА

***Паўтара года назад я ўжо меў гутарку з гэтым замежным дырыжорам адразу пасля філарманічнага канцэрта, у якім выконваліся Адажыо з Дзесятай сімфоніі Г. Малера і Пятая сімфонія Д. Шастаковіча. Уся канцэртная праграма тады прагучала быццам бы на адным дыханні, з нейкім асаблівым уздымам, дзякуючы творчым намаганням госця з Мюнхена — маэстра П'ера Дамініка Панэла. Ужо тое, што ён дырыжыраваў Акадэмічным сімфанічным аркестрам Рэспублікі Беларусь без партытур, ведаючы кожны твор на памяць, сведчыла пра незвычайныя прафесійныя вартасці музыканта. Прываблівала яго экспансіўная дырыжорская манера, імкненне як мага ярчэй і пераканаўча данесці да слухачоў змест музыкі.***

***І вось П.-Д. Панэл ізноў завітаў у Мінск, прапанаваўшы філарманічнай публіцы новую сімфанічную праграму з твораў І. С. Баха і А. Брукнера. Захацелася яшчэ раз сустрэцца з гэтым цікавым дырыжорам, пагаварыць пра яго творчасць, пра супрацоўніцтва з нашымі музыкантамі.***



**— Скажыце, паважаны маэстра, калі і пры якіх абставінах узнік творчы альянс паміж вамі і Акадэмічным сімфанічным аркестрам Беларусі?**

— Павінен прызнацца, што гэта адбылося зусім выпадкова і нечакана для мяне самога. Прыкладна ў сярэдзіне 1992 года, калі я аднойчы дырыжыраваў на Нямецкім тэлебачанні сімфанічнай праграмай з цыкла "Увага: класіка!", са мной сустрэліся два музыканты з Мінска. Ад іх я ўпершыню і даведаўся пра беларускі аркестр, яго багатыя выканальніцкія традыцыі. І неяк адразу ж у мяне з'явілася жаданне паехаць на гастролі ў адну з незнаёмых рэспублік былога СССР, каб непасрэдна на месцы, за дырыжорскім пультам, бліжэй пазнаёміцца з творчасцю старэйшага музычнага калектыву Беларусі.

Доўга не думаючы, паслаў па факсе пісьмо ў вашу філармонію і хутка атрымаў запрашэнне на гастрольны канцэрт у Мінску. Помню, мой дэбют на мінскай сцэне адбыўся ў лістападзе таго ж 1992 года і быў цёпла сустрэты публікай. Спадабаўся ён і кіраўніцтву філармоніі. З таго часу штогод выступаю з беларускімі аркестрантамі ў сімфанічных канцэртах.

**— Наколькі я ведаю, пазалетась з вамі быў заключаны на год адпаведны рабочы кантракт.**

— Так. І ўжо ў ліпені 1994 года Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі разам са мною выязджаў на некалькі канцэртаў у сталіцу Лівана — Бейрут, дзе нас прымалі па-сапраўднаму горача, з захапленнем. Потым мне выпаў гонар адкрываць у Мінску чарговы 57-ы канцэртны сезон прэм'ерай беларускай музыкі. Гэта была Дзевятая сімфонія Дзмітрыя Смольскага, напісаная сучаснай музычнай мовай, вельмі арыгінальная па сваіх кантрастных частках (асабліва вылучалася трэцяя з імправізацыяй саліруючай электрагітары). На маю думку, адкрыццё новага сезона прайшло тады ўдала.

**— Маэстра, дзе вы вучыліся музыцы і як сталі прафесійным дырыжорам?**

— Закончыў Мюнхенскую музычную акадэмію імя Рыхарда Штраўса. Пасля ўдасканальваў дырыжорскае майстэрства і паявішаў сваю кваліфікацыю ў майстар-класах знакамітага аўстрыйскага дырыжора Герберта фон Караяна.

**— Значыць, вы прайшлі караянаўскую выканаўчую школу?**

— Я браў урокі ў славутага маэстра ў Берліне, наведваў яго творчыя семінары, аркестравыя рэпетыцыі. Усё гэта, безумоўна, зрабіла жыватворны ўплыў на маё прафесійнае станаўленне як дырыжора, садзейнічала пашырэнню агульнага музычнага кругагляду, выпрацоўцы пэўных крытэрыяў пры адборы таго ці іншага канцэртнага рэпертуару.

**— Дарэчы, якія творы часцей за ўсё ўключаеце ў гастрольныя праграмы і якім кампазітарам аддаеце перавагу ў сваёй дырыжорскай практыцы?**

— У першую чаргу мяне цікавіць малавядомая для слухачоў непраграмная сімфанічная музыка такіх кампазітараў, як Брукнер, Малер, Стравінскі, Шастаковіч. Іх творы даволі часта з'яўляюцца ў маёй інтэрпрэтацыі на канцэртных эстрадах не толькі Мінска, але і шэрагу краін Заходняй Еўропы, бразільскага горада Сан-Паулу. Разам з тым люблю таксама дырыжыраваць і праграмнымі буйнымі творамі, асабліва Чайкоўскага, з іх глыбокім зместам, якія прасякнуты жывымі чалавечымі пачуццямі.

На музычным фестывалі "Мінская вясна-94" мне давялося іграць з аркестрам Беларусі Дзевятую сімфонію Антона Брукнера, творчая спадчына якога наогул доўгі час знаходзілася падспудам. Дарэчы, гэты апошні твор аднаго з вядомых аўстрыйскіх кампазітараў XIX стагоддзя не мае фіналу (цяжкая хвароба перапыніла працу майстра). Аднак і без фіналу брукнерская музыка дае шырокае ўяўленне пра тыя пачуцці, вобразы, імкненні, якія хвалявалі аўтара позне-рамантычнага сімфанізму. Я быў задаволены, што беларускія выканаўцы, глыбока адчуўшы старонкі гэтай манументальнай партытуры, здолелі з сапраўдным натхненнем раскрыць яе змест перад слухачамі. А цяпер вось адбылося выкананне Восьмай сімфоніі Брукнера, якую я прапанаваў мінскім меламанам у сувязі са 100-годдзем з дня смерці кампазітара.

**— Вы, маэстра Панэл, ужо чацвёрты сезон цесна супрацоўнічаеце з нашым аркестрам; добра спазналі на практыцы ўсе яго вартасці і слабыя месцы. Як на ваш погляд, ці дасягае ён еўрапейскага ўзроўню?**

— Беларускі аркестр, безумоўна, валодае высокім тэхнічным і мастацкім патэнцыялам, яму пад сілу здзяйсненне самых складаных творчых задач, у чым я асабіста не раз пераконваўся. Да таго ж, амаль усе музыканты-выканаўцы, незалежна ад характару інструментаў, выяўляюць сакавітае, насычанае гучанне, што я лічу рэдкай станоўчай з'явай аркестравага выканальніцтва. Але, на маю думку, ёсць і некаторыя праблемы. Зараз у гэтым калектыве адбываецца змена музыканцкага складу, у яго ўліваецца нямала здольнай моладзі, з якой трэба пастаянна і ўпарта працаваць, адточваць прафесійнае майстэрства. На жаль, адсутнасць у Акадэмічным аркестры сталага мастацкага кіраўніка і галоўнага дырыжора не спрыяе ў апошні час развіццю нармальнага творчага працэсу.

**— Я ведаю, што, апрача правядзення публічных канцэртаў, вы маеце з нашым аркестрам значную працу па гуказапісе на кампакт-дыскі асобных праграм класічнай музыкі. Якія вынікі гэтай працы?**

— На працягу 1993—1994 гадоў з дапамогай маскоўскай брыгады фірмы гуказапісу "Аніма-Вокс" я запісаў разам з беларускім аркестрам творы для трох кампакт-дыскаў. Сярод іх: сімфанічныя фантазіі П. Чайкоўскага "Бура", "Гамлет", "Рамео і Джульета"; гэтага ж кампазітара балада "Ваявода" (паводле Пушкіна) і сімфонія-паэма "Манфрэд" на байранаўскі сюжэт, а таксама Адажыо Г. Малера і Пятая сімфонія Д. Шастаковіча. Тры лазерныя дыскі з гэтымі творамі былі летась выпушчаны адной нямецкай фірмай горада Касэля. Яны маюць значныя перавагі параўнальна са звычайнымі грампласцінкамі і даюць больш паўнацэннае ўяўленне пра аркестр.

**— Нарэшце, зусім стандартнае пытанне: якія вашы далейшыя планы?**

— У мяне ёсць праект-задума падрыхтаваць з удзелам супрацоўнікаў Мюнхенскага тэлебачання музычны тэлефільм пра Акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь, каб паказаць яго потым у час гастроляў калектыву ў Германіі летам бягучага года. Хачу таксама працягваць запісы з беларускімі музыкантамі класічных твораў для наступных двух кампакт-дыскаў. Рэпертуар ужо канчаткова вызначаны. Але ўсё залежыць ад таго, як складуцца далейшыя творчыя ўзаемаадносіны з рэспубліканскай філармоніяй і ці будзе заключаны са мною як з дырыжорам новы кантракт.

P. S. Велічная сімфонія А. Брукнера, пра якую гаварыў маэстра Панэл, і рэмінорны фартэпіянны канцэрт Баха ў бездакорным яркім выкананні маладога таленавітага піяніста Юрыя Блінова прагучалі ў зале філармоніі, выклікаўшы сапраўднае захапленне ў мінскіх меламанаў.

**Георгій ЗАГАРОДНІ**

***У канцы 60-х гадоў я пазнаёміўся (у Доме творчасці Каралішчавічы) з Мікалаем Мікалаевічам Улашчыкам — выдатным беларускім гісторыкам, вялікім патрыётам Бацькаўшчыны, цудоўным, сардэчным чалавекам. Знаёмства мела працяг: было яшчэ ці мала сустрэч — і ў Мінску, і ў Маскве, дзе жыў і працаваў (дакладней, вымушаны быў жыць і працаваць) Мікалай Мікалаевіч, а таксама зрэдчасу мы перапісваліся, абменьваліся кнігамі. У сваім хатнім архіве я знайшоў каля трох дзесяткаў лістоў і паштовак М. Улашчыка, па змесце якіх можна меркаваць як пра жыццёвыя і творчыя клопаты слыннага вучонага, так і пра яго грамадскае і чалавечае аблічча. Некаторыя з іх — цалкам або ва ўрыўках — прапаную чытачам тыднёвіка "ЛіМ".***

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

# КЛОПАТЫ МІКАЛАЯ УЛАШЧЫКА

## ДА 90-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

**Дарагі Ніл Сямёнавіч**

Прыехаўшы дахаты, прачытаў Ваш артыкул-рэцэнзію на зборнік вершаў Гаўрука. Рэцэнзія напісана вельмі сардэчна і нам абодвум (мне і жонцы) гэта вельмі прыемна, бо ў 1967 г. мы разам з Гаўруком былі ў Каралішчавічах і ён нам вельмі падабаўся. Таленавіты чалавек з вельмі цяжкім лёсам, якому рэдка даводзілася чуць пра сябе добрае слова.

На вялікі жаль, я не бачыў гэтай кнігі ў магазінах і таму не набыў яе. Быў бы вельмі ўдзячны Вам, калі б Вы змаглі прыслаць яе.

Пасылаю Вам два свае артыкулы. У тым, дзе напісана пра пісьменнасць, галоўны, пасля апошняй карэктуры, выкрасліў мае падлікі, што ў Беларусі к 1917 г. пісьменных было каля 40%.

Прывітанне ўсяму Вашаму сямейству.

26.IX.69 г. Улашчык.

**Дарагі Ніл Сямёнавіч**

Памёрла ўдава Пічэты, і яго кватэра цалкам ліквідуецца. Кіруе гэтым дачка Пічэты — Ксеня Уладзіміраўна. Я ў свой час длубаўся ў архіве акадэміка, адбіраў артыкулы для друку, але неяк сталася так, што шмат пра якія неапублікаваныя рукапісы не ведаў. Зараз, калі яны скампанаваны ў адным месцы, рукапісы выглядаюць вельмі салідна. Сярод іх ёсць перадрукаваныя на машынцы, а ёсць і пісаныя ад рукі. Почырк у Пічэты быў страшны і прачытаць яго пісаніну цяжка. Сярод перадрукаваных вялікі артыкул пра Гродзеншчыну ў першай палове XVI ст. Вялікая колькасць напісана па-беларуску. Пічэта гаварыў па-беларуску камічна (Беларускі дзяржаўны-государственный універсітэт і г. д.), але пісаў зусім добра. Усё гэта ідзе ў архіў Акадэміі навук СССР. Сярод іншага мне аддалі зборнік вершаў Чарота. Я ніколі не лічыў Чарота выдатным паэтам, і для мяне яго кніга не мае вялікай каштоўнасці. Перасылаю яе Вам, спадзеючыся, што для Вас яна будзе цікавая, хаця б як помнік культуры.

Зараз пасылаю Вам і тую дробязь, якую часам пішу (пачаў пісаць фантастычную хроніку Магілёва, але кінуў гэта даўно). Аснову "нарыса" складае панегірык, які быў зачытаны на банкеце пасля абароны доктарскай Наталляй Маркаўнаю (жонка М. Улашчыка. — **Н. Г.**). Яны шле Вам і ўсёй Вашай сям'і сваё прывітанне, а сама ўсё хварэе і марыць пра паездку ў Мінск.

З новым Вас годам.

12.1.1974.

**Дарагі Ніл Сямёнавіч!**

Вялікае дзякуй Вам за "Песні" (кніга "Песні народных свят і абрадаў". — **Н. Г.**). Парадаваўся, гледзячы ці чытаючы не толькі самыя песні, але і на такое эстэтычнае выданне. Кніга скрозь зрабіла б добрае ўражанне, а ў Мінску, дзе так мала выдаюць прыгожых кніг, асабліва прыемна.

Пачаў чытаць калядныя песні і на мяне дыхнула дзіцячымі гадамі, калі пад коляды малымі сядзелі на чыста вымытай падлозе, папанай жоўтым пяском, і чакалі, што маці будзе ставіць на стол розныя смачныя рэчы, а можа і так дасць троха сушаных груш.

1975 г. пачаўся з нейкага шалёнага грыпу, ад якога ледве адляжаўся. Пачаў хадзіць два дні назад, але да гэтага часу ўсё хістае.

Надта зацягнуўся выхад тому летапісаў. Ужо пайшлі чыстыя аркушы, а карэктуры паказнікаў усё няма. Першыя дні гэтага году быў нават рады, бо чытаць не мог, а зараз сяджу і непакоюся, бо па планах гэты том (32-гі) павінен быў выйсці яшчэ ў 1973. У гэтым годзе павінен здаць у выдавецтва (ці хаця б правесці праз вучоны савет) другі том. У такім разе ўсе беларускія летапісы будуць сабраны ў адным месцы. Не будзе ставаць толькі магілёўскай хронікі, пісанай па-польску. Тут мне надта накруціў магілёвец, каб яму горкаікалася. Магілёўская хроніка не надта падыходзіла пад гэту серыю, але такі была магчымасць усунуць і яе. Калі і дзе і хто яе зараз надрукуе ў поўным памеры — справа вельмі цьмяная.

9.1.1975 г.

**Дарагі Ніл Сямёнавіч**

Пасылаю Вам зборнік, у якім змешчаны артыкул пра мяне. Пісаў супрацоўнік інстытута, з якім працую разам ужо больш за 20 гадоў. У N 3 "Истории СССР" будзе яшчэ невялікая нататка. На гэтым юбілейныя радасці скончацца. Ад Саюзнай і Украінскай акадэмій атрымаў граматы (не ў звязку з юбілеем), ад Беларускай маю дулю. Можна сказаць, што ўсё ідзе, як і належыць быць. Сапраўдная бяда — тое, што "Гісторыя вёскі" кепска ідзе наперад. Наталля Маркаўна ўсё хворая. Яна перадае ўсёй Вашай сям'і прывітанне.

10.III.1976 г. Улашчык

**Дарагі Ніл Сямёнавіч**

70 гадоў — такі ж семдзесят, і радасць з гэтага невялікая, але атрымаць такі ліст, які прыслалі Вы — радасць. Зараз мала (надта мала) засталося тых, з кім вучыўся, працаваў, марыў, хадзіў, ездзіў, а новыя знаёмствы (не знаёмствы, а сувязі) здараюцца рэдка. Вы адзін з тых, з кім знаёмства і дружба пачаліся з першай сустрэчы. Наогул знаёмствы за апошнія 10—15 гадоў — дзіўныя. Кантакты завязваюцца або з пісьменнікамі, або з літаратуразнаўцамі, ды яшчэ з людзьмі маладшымі за мяне, і ніяк не пераходзяць мяжы звычайнага знаёмства з гісторыкамі.

Калі Вы думаеце, што я атрымаў стос тэлеграмаў, то памыляецеся. Ад гісторыкаў прыйшло дзве. Думаю, што адна з іх — патаемная акцыя: чалавек паслаў так, каб не ведалі іншыя. А наогул усё прайшло паціху, бо не было "душы" кожнага юбілею — банкету. 30 снежня завёз Наталлю Маркаўну ў бальніцу, а з новага году калі і не хварэў, то і здаровы не быў, і таму калі прыйшоў у інстытут, дзе сектар збіраўся адзначыць такую падзею, то быў слабы і прасіў адкласці, але ўжо купілі кветкі і адкладаць было нельга.

Слабею. Самае горшае з гэтага тое, што не змагу пабываць у тых мясцінах Беларусі, дзе збіраюся пахадзіць ужо колькі гадоў (у свой час лічыў самае лепшае — гэта не ездзіць, а хадзіць пехатою). У 1928 г. меркаваў прайсці пехатою яшчэ з Сінельнікава да Харкава, каб пабачыць, якая ў той час была Украіна, але і гэта не выйшла. Па Беларусі пахадзіў шмат.

Прывітанне ўсёй Вашай сям'і ад Наталлі Маркаўны. Яна ўсё хварэе.

17.III.1976 г.

**Дарагі Ніл Сямёнавіч**

...Праз "ЛіМ" даведаўся пра смерць Дубоўкі. Даведаўся і пра тое, што яму на паніхіду не знайшлося месца ў Доме пісьменніка. Ці знойдзецца месца для яго урны ў Мінску? Між іншым, Купала ставіў яго вышэй за сябе ("Я Дзяржавін, а ты Пушкін"). Так казаў мне чалавек, які меў блізкае дачыненне да абодвух. Выпадкам прачытаў, што на з'ездзе "Маладняка" кіраваў справамі Чарот. Я прасядзеў, здаецца, на ўсіх пасяджэннях з'езду і нібыта памятаю, як там што рабілася. Фактычна рэй вёў Дубоўка, у Чарота на гэта неставала ні культуры, ні (пэўна) літаратурнага таленту. Вострыя спрэчкі сталіся паміж Валайцісам (РАПП), Дубоўкам і Пылыпэнкам (Харкаў, "Плуг"). Да гэтага часу памятаю: "Вы, Валяйтис, дурака на валяйтэ" (Пылыпэнка). На фота з'езду ёсць абодва. Ці бачылі Вы стэнаграфічную справаздачу з'езду — у сіняй папяровай вокладцы і з такою колькасцю памылак, што стала б на стос кніг. Чарот у 20-я гады (асабліва да 1927—1929) быў надзвычайна папулярны, і тое, што пісалася "Не ганюся за Чаротам, і Купале не раўня" верна адбівае настроі свайго часу. Але ўжо пад канец гэтых гадоў яго папулярнасць пачала знікаць.

...Я скончыў "Кнігу пра вёску". Зараз з ёю, як кот з селядцом. Усе дзівяцца — хто ж гэта будзе (які дурань) друкаваць кнігу пра адну вёску. Але калі напісаў, то такі і надрукую.

...Ці ведаеце Вы, што ў пачатку лета 1920 г. праз Мінск праехаў Мережкоўскі і змясціў у "Минском кур'ере" урывак са свайго рамана, прысвечанага дзекабрыстам (сцэна бітвы ў Пецярбурзе). У маі 1920 г. у Мінску пачала выходзіць і другая газета на рускай мове "Утро Белоруссии". З беларускіх у той час друкаваўся "Звон", а на польскай "Кур'ер літэвскі". Пра гэтыя газеты (апрача "Звона"), здаецца, не ведаюць і гісторыкі. Я чытаў і "Звон", і ўрывак з "Дзекабрыстаў".

17.IV.76

**Дарагі Ніл Сямёнавіч**

...Прачытаў у свой час Вашу кнігу пра "Маладняк". Хораша напісана. Як Вы, калі пісалі кнігу, былі чалавек зусім малады, то трэба сказаць: на той узрост (ды яшчэ зважаючы на ўмовы, у якіх раслі) кніга зусім харошая і чалавечая. У ёй няма і знаку таго, што кагось Вы хацелі б захваліць, хаця ён і не варты, а каго ахаяць, і таксама без дай прычыны.

Другое — Ваша нядаўняя рэцэнзія на кнігу Кісялёва. Я атрымаў яе, прачытаў і ўражанне было якраз такое, як выказалі Вы. Думаў напісаць аўтару пра гэта, але так жаданне засталося жаданнем. Пішу манаграфію пра летапісанне ў Беларусі (нават у гэтым годзе павінен скончыць) і ўвесь час думаю: наколькі наша культура была багацей, чым мы пра гэта ведалі і чым гэта так намагаюцца паказаць гісторыкі ў Мінску. Нейкая форма вар'яцтва.

...Ці бачылі Вы кнігу Бергман (Варшава) пра Тарашкевіча? Варта прачытаць.

Прывітанне яшчэ раз ад Н. М.

4.III.1978

**Дарагі Ніл Сямёнавіч**

21—24 лістапада ў Вільні была канферэнцыя па гістарыяграфіі і крыніцазнаўстве Прыбалтыкі. Паслалі і мяне, а ў апошні дзень прыехала Харашкевіч, якая ўжо больш чым 10 гадоў змагаецца за тое, каб пачаць ізноў выдаваць "Метрыку". Зрабіла яшчэ адзін даклад, прынялі яшчэ адну рэзалюцыю, але на гэта не стае асобы, якая ходзіць у высокія сферы, — такой, якой быў калісь Грэкаў (Б.Д.Грэкаў (1882—1953), акадэмік АН СССР і ганаровы член АН БССР, дырэктар інстытута гісторыі АН СССР. — **Н.Г.**). Харашкевіч жанчына, яе завуць Ганна (Анна) Леанідаўна. Адрас: М.121467, Рублевское шоссе, д. 93, к. 1, кв. 31. З Вільні яна паехала ў Мінск і я прыняў захады, каб ёй спаткацца з Вамі (званіў сястры), але Харашкевіч была ўсяго адзін дзень — у архіве.

Як ездзім (ці выходзім) у людзі. Калісь у Маскву прыехаў член Каралеўскага таварыства Кац (яго бацька з Магілёва, што сцвярджае маю гіпотэзу, нібы ўсе вялікія людзі паходзяць з Беларусі). Пабыўшы ў лабараторыі Наталлі Маркаўны, ён сказаў, каб Н. М. прыслала артыкул аб сваіх дасягненнях у "Нэчур", які мае сусветную вядомасць. Яна паслала і праз кароткі час артыкул быў надрукаваны, і ёй дасланы 1 экз. адбітку, каб атрымаць 50 адбіткаў, трэба было заплаціць 8 шылінгаў, але ў Акадэміі такіх грошай не было, і таму яна дала зрабіць 50 экз. фота, якія і рассылала тым, хто прасіў адбітак (просьбаў якраз і было 50). Таму не дзіва, што і на Вас не стала некалькі рублёў. Яны выдаткуюцца на тых, хто ездзіць увесь час і да таго ж ездзіць марна.

Адпачынку ў гэтым годзе не было. Вельмі падобна, што не будзе і ў наступным, хаця мяне запісалі на канец году ў санаторый тут, каля Масквы. У гэтым годзе трэба было падаць на вучоны савет кнігу, якая ў мяне завецца "Введение в изучение белорусско-литовского летописания". Калі не падаць, то гэта скандал, а хто любіць скандалы? Таму трэба было давесці да таго ўзроўню, каб можна было паставіць на савет. А з мая мінулага году ў выдавецтве ляжыць том летапісаў, які мог крануцца ў які хаця час (не люблю тэрміну "у любы"). Зараз ён такі крануўся, і мяне ўжо сцябаюць. Рэдактар — вялікі майстар у гэтай справе і ўсё паказвае, дзе што я схібіў, але тэксты, напісаныя лацінкаю (польскія і лацінскія), ніхто рэдагаваць не будзе, бо няма каму. Вось мы і дажыліся. У т. 32 "Быхаўца" хтось рэдагаваў, але не зрабіў ні аднае заўвагі, і таму мы думалі, што ўся яго дзейнасць абмежавалася атрыманнем мізэрнага ганарару.

Дзякуй Вам за кнігі. Наталля Маркаўна шле Вам і ўсёй Вашай сям'і сваё прывітанне.

У 1976 г. скааперваўся з мастакамі адносна адзення (маецца на ўвазе падрыхтоўка альбома беларускага народнага адзення. — **Н.Г.**). Яны згадзіліся, нават ахвотна, але зараз не адказваюць на лісты, а час ужо прыйшоў. Пераглядаючы крыніцы, я здзівіўся, бо налічыў не менш як 25 узораў толькі верхняга мужчынскага адзення і ўсё з імпартнага тавару. А як апраналіся багатыя мяшчанкі нават з маленькіх гарадоў, нават у час вайны ў 1708 г.! Адамашак, аксаміт, атлас, собалі, фарботкі, пярсцёнкі і іншае.

2.XII.1978 г. Скора і новы год.

**Дарагі Ніл Сямёнавіч**

Некалькі дзён назад я глядзеў па тэлевізары перадачу — мастацкая выстаўка: жывапіс і скульптура. Зразумела, у мастакоў на першым месцы дзяўчаты, але было і іншае. Між іншым паказалі партрэт Капіцы, зусім старэнькага, і яго жонкі.

Тут я падумаў, што трэба было б, каб хто-небудзь з добрых мастакоў зрабіў партрэт Гаўрылы Іванавіча. Найлепш да гэтага падышоў бы Сергіевіч, але зараз (казалі) ён у такім стане, што зрабіць ужо не зможа. З тых, што засталіся ад 20-х гг. (Ганчарык, Вечар і можа хтось яшчэ), Гаўрыла Іванавіч самы большы, і будзе вельмі шкада, калі ніхто не напіша яго партрэт. У мяне сярод мастакоў знаёмствы вельмі малыя, прасіць самога Г. І., каб ён заказаў свой партрэт, неяк не выпадае, а яму ж ужо 79 (але выглядае зусім бадзёры). Трэба спяшацца; не заўсёды будзе такім.

Таму ў мяне да Вас просьба: паспрабуйце ўладзіць гэту справу. Вы знаёмы з усімі.

Цяжка перажывалі тут утрату Юрыя Паўлавіча. Мне перадалі, што працаваў звыш сіл, з таго, пэўна, дачасна і памёр.

Прывітанне Ніне Іванаўне (мая жонка. — **Н. Г.**) ад мяне і Наталлі Маркаўны. У гэтым годзе ізноў будзем сядзець пад Масквою. Том летапісаў павінен у маі пайсці ў друкарню і зараз складаю паказнікі.

30.III.1979

**Дарагія Ніна Іванаўна і Ніл Сямёнавіч**

Вітаю Вас з Новым годам і жадаю ўсякіх новых поспехаў. "Удзячнасць" (мая кніга "Удзячнасць і абавязак". — **Н. Г.**) прачытаў раз у Каралішчавічах і раз тут. Напісана таленавіта і не па абавязку, а з пачуццём.

Дарэчы, Кісялёў прыслаў новую кнігу. Якая працавітасць! Каб "насяліць" наша XIX ст., ён зрабіў ці не больш за ўсіх, ва ўсякім разе больш за ўвесь Інстытут гісторыі.

Наталля Маркаўна шле Вам прывітанне. Яна ўжо пачала выходзіць з дому, пакуль на двор.

Ці спраўляе хто-небудзь Куццю?

24.XII.82

**Дарагі Ніл Сямёнавіч**

Калі ў друку з'явіліся звесткі, што пачалі ствараць музей пад небам, то я прапанаваў (у Інстытуце гісторыі БССР) уплаціць у фонд музея сваю месячную зарплату — 400 рублёў. Разам са мною ў Мінску была К. Індава (яна з-пад Клімавіч, зараз старшыня Камісіі па гісторыі сельскай гаспадаркі і сялянства), якая таксама прапанавала ўнесці столькі сама. Разам з Петрыкавым (намеснікам дырэктара Інстытута гісторыі) і Шабуняю паехалі ў ЦК, дзе Петрыкаў і сказаў пра гэту прапанову (мяне, зразумела, не ўзялі). Там ім сказалі, што так рабіць нельга — нібы няма такога закону. Разумею, што прычына іншая: калі б унёс я, то трэба было б плаціць і Петрыкаву, і яшчэ некаму, а грошай шкада.

Зараз будова музея, так кажуць, села, бо няма сродкаў. Мяне гэта непакоіць, нават вельмі непакоіць, і я гатовы ўплаціць тыя самыя 400 ці і больш, абы справа кранулася з месца. Трэба намагчыся, каб начальства пагадзілася на зборы, трэба, каб нехта (хаця б у "ЛіМе") змясціў пра гэта артыкул, трэба адчыніць рахунак. Каб не палохаць людзей (тых, ведама, у каго шмат лішніх грошай, напрыклад, К. і Ш.), варта пачаць з невялікага на асобу — 50—100 рублёў. Чэшскі музей створаны на сродкі, сабраныя сярод насельніцтва, чаму ж мы горшыя (у бога цяля ўкралі). Няхай даюць па рублю, па 50 капеек, гэта яшчэ лепш: няхай будзе ўсенародны збор, усенародная справа.

Калі будзе згода на артыкул у газеце (ці ў "Помніках", але гэта горш), то магу напісаць я. Згодзен падпісаць адзін, але лепш, каб мне не вытыкацца. Можа, на гэта згодзіцца Брыль ці хто другі.

Ялугін такі змясціў рэцэнзію на падручнік гісторыі. Пастрыглі яе, але такі ж ёсць. Які там водгук!

13.III.1983

**Дарагі Ніл Сямёнавіч**

...Быў у "Полымі" (выдавецтве). Увесь час уздымаецца пытанне адносна "Вёскі" (рукапісу). Паслаў адпаведныя матэрыялы, але вельмі падобна, што і тут "ніц не бэндзе". Надрукаваць

*(Працяг на стар. 15)*

Мітрэнгі

# МЫ ЎСЕ ТРОШКІ МЮНХГАЎЗЕНЫ

Міхась ПЯНКРАТ

Я безнадзейна хворы настальгіяй, — невылечнай хваробай адыходзячага пакалення. Прыгадваю сваё неспакойнае юнацтва ў стольным Мінску і сэрца ахінае пранізлівая туга. Мой слаўны, мой добры, мой ласкавы Мінск! Я хадзіў па тваіх чысценькіх начных вуліцах і завулках, як па ўласным падворку. Я не баяўся быць зняважаным, абрабаваным, знявечаным. Я быў па вушы закаханы ў свой горад.

Божа мой, няўжо так было?

А яно такі было, было!

Гадоў трыццаць таму знакаміты сатырычна-палітычны часопіс "Крокодил", выконваючы сацыяльны заказ свайго гаспадара — роднай кампартыі, пачаў паказваць на сваіх старонках сталіцы ўсіх саюзных рэспублік, цэментуючы славутую дружбу народаў. Рабілася гэта па-савецку грунтоўна і па-кракадзільску забаўна. Маскоўскія мастакі кампанавалі панараму гарадоў-сталіц, а нацыянальныя пісьменнікі выступалі ў якасці літаратурных гідаў: "вадзілі" чытачоў па лабірынтах сваіх гарадоў і з натужным гумарком расказвалі аб гістарычных мясцінах сваіх сталіц.

Быць гідам па беларускай сталіцы "Крокодил" даверыў мне, тагачаснаму свайму карэспандэнту.

І вось я ў паветры. Стракоча няўклюдны верталёт, стракочуць кінакамеры. Мастакі робяць накіды ў сваіх альбомах.

Праслаўлены карыкатурыст-кракадзілец, пухам яму зямля, адарваўся ад ілюмінатара і, кінуўшы позірк у мой бок, напышліва сказаў:

— Зялёныя квадрацікі і нічога больш! Няма за што вокам зачапіцца. Гэта не тое, што Масква, а ці, нават, той жа Кіеў... Вы, прабачце, чыталі, як апісаў нашу сталіцу Леў Касіль? "Кожны чалавек у Маскве абавязкова паклоніцца Музею Уладзіміра Ільіча, яго Маўзалею, Чырвонай плошчы, Васілю Блажэннаму, Траццякоўцы, Вялікаму тэатру... Што ні крок, то мусіш нізка пакланіцца". А тут у вас адны плоскасці, квадраты, кубы... Павальная архітэктурная геаметрыя. Тут і хацеў бы пакланіцца, ды няма чаму...

— Правільна! — перабіваю масцітага маскоўскага госця. — У Маскву ехаць са слабой спіной, — справа кепская — хрыбет зламаць можна...

Маскоўскі госць нашатырыўся:

— Вы што? Нязгодны з Касілём?

— З Касілём згодзен, — кажу, — толькі не трэба параўнання. Мінск, вядома ж, не Масква і нават не Кіеў. У нас у Мінску і сапраўды спіну не навярэдзіш у нізкіх паклонах. У нас можна толькі адзін раз пакланіцца да самай зямлі і аднаму святому месцу...

— Ого! І якое ж гэта святое месца, калі не сакрэт?

— А гэта сам горад і тое святое месца, на якім ён стаіць...

Маэстра скрывагубіўся:

— Гэта фетышызм: пакланяцца таму, чаго, па сутнасці, няма...

Тут мяне як бы пугай сцебанулі па спіне. Я і не заўважыў, як выскачыў з рамак службовагосцевай дыпламатыі:

— Калега відаць забыўся, што Мінск — горад Фенікс. Ён падняўся з уласнага ваеннага попелу, крыві і цяжкага людскога поту. Няўжо гэта вам нічога не гаворыць? Я, праўда, не Леў Касіль, але знайду што сказаць пра сваю маладую і гордую сталіцу. Напішу так, як умею, і так, як думаю...

Маскоўскі госць не чакаў такога спрыту ад беларускай правінцыі і яўна разгубіўся:

— Так, так, а ўсё ж...

— А ўсё ж я напішу прыкладна так: "Дарагія чытачы, жыхары і госці Мінска! Я пазнаёмлю вас з горадам Працаўніком і горадам Героем. Гэты горад самы Малады, самы Зялёны, самы Чысты, самы Добры і самы Прыветны... Усё з вялікай літары. Гэты слаўны малойца быў бы дастойным жаніхом самой матухне Маскве, калі б тая не была такой старой і пыхлівай..."

Кракадзільская знакамітасць яўна была пакрыўджана:

— Я не ведаю, што вы там напішаце яшчэ, але апошнюю фразу пра жаніхоўства вы наўрад ці прачытаеце ў "Кракадзіле". Няўдалы і запальчывы жарт...

Як у ваду глядзеў: маскоўскія цэнзары таксама не ўпадабалі гэтую гарэзлівую фразу...

Але такой бяды: што было, тое з вадой сплыло. Трывожаць думкі пра сённяшні мой горад. Хаджу па яго вуліцах і завулках і не пазнаю свайго былога куміра. Горад стаў трывожным і небяспечным, брудным і засмечаным, як знадворку, так і знутры. Былы прыгажун захлынаецца ад многіх атрутных рэчываў, што лятаюць у паветры, сцелюцца па зямлі, хаваюцца ў яе нетрах. Горад заядае небывалае нашэсце пацукоў, мышэй, клапоў, блох, мурашоў, таракана ў, вошай... Якая толькі пошасць яго не грызе! Цяпер нават тая ж старая і таксама не чысцейшая Масква не ўзяла б у жаніхі маладога, але такога заняпалага і разбойнага Мінска...

Мне балюча гэтак гаварыць пра свой родны горад, але што ты зробіш, калі становішча хворага горада пагаршаецца з кожным днём, а "дактароў" пры сённяшнім палітычным бураломе не знойдзеш. А тым часам мы змірыліся з густым атрутным паветрам, з розным друзам і бітым шклом у людных мясцінах, з сабачымі выкідамі на тратуарах, са смуродам кантэйнераў з бытавымі адыходамі пад нашымі вокнамі... Звыкліся не заўважаць усяго гэтага, як звыкаюцца з паганай барадаўкай на ўласным носе.

А вінаваціць, як быццам, і няма каго, акрамя нас саміх. Гэта мы насуперак усялякай логіцы намагаемся як мага хутчэй атруціць сваё жыццё. Па сваёй волі ствараем небяспечныя праблемы, каб потым апамятацца і пачаць з імі змагацца. Гэтаму нас доўга і настойліва вучылі і мы аказаліся добрасумленнымі вучнямі...

Прыгледзімся да адной небяспечнай абставіны.

Колішняе замілаванае захапленне кватэрнай жывёлагадоўляй ужо сёння ператвараецца ў грозную праблему. Колькасць сабак, катоў, птушак, хамякоў, марскіх свінак, малпаў ды іншай дэкаратыўнай жыўнасці дагнала колькасць дарослых жыхароў горада. На кожную свядомую душу прыходзіцца па адной жывёлаадзінцы. А калі ўлічыць, што прыплод гарадской флоры расце значна хутчэй за прырост мінчан, то мы і аглянуцца не паспеем, як станем чалавечай меншасцю ў сваім слаўным горадзе.

Асабліва непакоіць агрэсіўная сабачая арда. Напачатку яна выцесніла з дваровых пясочніц і пляцовак дзяцей, а потым поўнасцю акупіравала скверы, паркі і нават пешаходныя дарожкі, прыціскаючы да абочын большую частку нашага грамадства — пешаходаў. Усе лепшыя мясціны ў горадзе, прызначаныя людзям, сталі, прабачце, сабачымі прыбіральнямі і пляцоўкамі для сабачых гульняў.

Усе гэта бачаць, усе гэта ведаюць, але сарамліва адварочваюцца, церпяць і маўчаць. А як жа: "Сабака — друг чалавека". Тым часам той друг становіцца небяспечным...

Божа мяне барані, каб я падымаў голас супраць сабачага роду! Ні ў якім разе! Я толькі за тое, каб сабакам было сабачае, а людзям — людское. Толькі і ўсяго.

Вазьму для прыкладу невялічкі квадрат гарадской тэрыторыі ў межах вуліц Сурганава, Багдановіча, Някрасава, Бяды. Гэта амаль у самым цэнтры горада. На гэтым "пятачку" месцяцца дзве сярэднія школы, два дзіцячыя садкі, стаматалагічная паліклініка, аптэка, некалькі магазінаў і бытавых устаноў. А пасярэдзіне гэтай грамадскай густаты — ЖЭС-85 і апорны пункт міліцыі.

Раніца тут пачынаецца з сабачага брэху. Сабакі дурэюць на волі і свежым паветры, а людзі спяшаюцца па сваіх штодзённых справах, — дарослыя на працу, а дзеці ў школу.

Вось тут і скрыжоўваюцца дарогі сабак і пешаходаў. Сябры чалавека, адпушчаныя на ўсе чатыры бакі, лічаць сваім сабачым абавязкам абавязкова абгаўкаць, ці абнюхаць стрэчнага-папярэчнага, а пры выпадку і паспрабаваць на зуб...

Як жа на гэта глядзяць гаспадары двароў, пляцовак, сквераў, школьных і дзетсадаўскіх тэрыторый, ды іншых мясцін сабачага засілля?

Дырэктар школы N 53 Людміла Шыпай:

— Ой, і не гаварыце! Сама іду праз школьны двор і па баках аглядваюся. Наша агароджа не выратоўвае, яе настойліва нейчыя магутныя рукі крышаць і ламаюць... Сабакі паскудзяць школьную тэрыторыю. Часам пасылаем вучняў прыбіраць за сабакамі...

Загадчыца дзіцячага сада N 432 Людміла Бабарыкіна:

— Няма аніякага паратунку ад сабак. Яны бегаюць без павадкоў, ашыйнікаў і намордпікаў. Паскардзіцца няма каму.

Начальнік ЖЭС N 85 Уладзімір Ярмаловіч:

— Сабакі бегаюць? Дык што? — я павінен іх за хвост лавіць? На гэта ў мяне часу няма, да і гады не тыя. Няхай міліцыя ловіць, гэта яе справа...

Начальнік апорнага міліцэйскага пункта Вадзім Сапронаў:

— Няхай гаспадары горада пабудуюць пляцоўкі для выгулу сабак, тады ў нас не будзе патрэбы гаварыць на гэтую тэму...

Да гаспадароў горада я не пайшоў, бо ведаў, што яны мне скажуць. А скажуць, прыкладна, так: "Шаноўны пісьменнік! Няўжо вы не ведаеце, што нашая дарагая эканоміка ляжыць на лапатках? Дык ці да сабак нам на сённяшні дзень. На сённяшні дзень мы павінны думаць пра нешта іншае. А сабакі нікуды не збягуць..."

Правільна, паважаныя кіраўнікі павінны, абавязаны думаць! І не толькі думаць, але і ведаць, што многія тысячы гарадскіх жывёлін штогод пакідаюць на людных месцах тоны экскрэментаў, якія потым высыхаюць, ператвараюцца ў пыл, трапляюць у паветра і без таго насычанае атрутай. Нават у замежных, высокацывілізаваных краінах, дзе кватэрнае жывёлаўтрыманне вядзецца ў строгіх санітарных рамках, сёння б'юць трывогу. Нямецкія медыкі, напрыклад, сцвярджаюць, што цяпер вядома звыш двухсот заразных хвароб, віноўнікамі якіх з'яўляецца хатняя жыўнасць. Нават пры непрамым кантакце з сабакамі і катамі можна набыць розную заразу. Глеба нашых паркаў, сквераў, асабліва жылых двароў, заражаецца яечкамі сабачай лентачнай глісты.

Кватэрная жывёлагадоўля непакоіць медыкаў многіх краін свету, вось толькі ўпарта маўчыць наша санітарная служба. Мы жылі і працягваем жыць па нягодным прынцыпе: пакуль гром не грымне. А гром можа грымнуць не сёння-заўтра. Пры густым гарадскім стоўпатварэнні і атрутнай атмасферы мы як нідзе набліжаемся да экалагічнага выбуху. Варта толькі ледзь-ледзь парушыць крытычную рыску і атрымаецца рукатворная катастрофа...

Беларуская сталіца стала небяспечнай зонай для пражывання. Сёння мінчане маглі б па праву карыстацца чарнобыльскімі льготамі. Дык не трэба здзіўляцца, што кожны божы дзень людзі часцей наведваюць могілкі, чым радзільныя дамы. У нас, фактычна, не засталося абсалютна здаровых людзей. Блізка да паловы юнакоў, якія прыходзяць на прызыўныя пункты, не прыгодныя для страявой службы ў арміі.

А якая наша будучыня? Нашы дзеці пакутуюць ад хвароб, звязаных з пагібельным асяроддзем, і ад пастаяннага недаядання. Заняпалая Радзіма-Маці стала мачыхай для сваіх жа ўласных дзяцей. Яна не здольна іх ні накарміць, ні вылечыць. Тыя капіталісты, якімі нас стольк і гадоў палохалі і якіх мы так дружна праклiналі, сёння міласэрна горнуць да сваіх грудзей нашых хворых дзетак, нібы тых сірот без роду і племя... Хіба гэта не страшна і не ганебна? Б'ёмся, як тая рыба аб лёд, просім у некага паратунку і спагады, а самі не можам сябе выратаваць. да чаго ж мы дажыліся, свядомыя і адукаваныя? Цяпер, як той знакаміты барон Мюнхгаўзен, цягнем сябе за валасы, каб выкарабкацца з таго балота, якое стварылі па ўласнай ахвоце.

Я ўсё гэта гавару пра сваю сталіцу, а маю на ўвазе ўсю родную маю Беларусь.

Некалі Чалавек быў царом на зямлі. Цяпер ён становіцца яе рабом. Ён і сам не заважыў, як стаў дзічэць і перастаў кантраляваць уласныя ўчынкі.

Божа праведны, уразумі нас грэшных, дай нам сілу зноў адчуць сябе гаспадарамі на гэтай знявечанай і атручанай намі зямлі, на якой мы ў пакутах нараджаемся, цяжка жывём і бясслаўна паміраем...

Прабач нас, Божа, мы не ведаем, што робім. Сёння нешта ствараем, каб назаўтра разбурыць зробленае, знаходзім лекі ад розных хвароб і тут жа ствараем новую заразу, настойліва шукаем шляхі да чалавечага даўгалецця і адным махам губім і без таго свой кароткі век...

Пашкадуй нас, Божа, і памажы.

**Ад рэдакцыі**. Магчыма, наш аўтар — вядомы сатырык — крыху і гіпербалізаваў праблему суіснавання чалавека і хатніх жывёл у адным канкрэтным горадзе, аднак мусім пагадзіцца з ім, што праблема гэтая, хай і не такая вострая, але ёсць. Дык не будзем адмахвацца ад яе, а задумаемся...

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Марцін КОЎЗКІ

Якія навіны? А вось якія, лё-савырашальныя для малых гарадоў. Шклоў аб'ядноўваецца з Расіяй і пераймяноўваецца ў Сцяклоў. Мэр маскоўскі Юрый Лужкоў запрашаецца ў Сцяклоў. У Сцяклове варыцца варыянт матча веку Каспараў — Ананд. Абмяркоўваецца праблема, што не рашалася доўга, аб павароце Дняпра ў Волгу. Гімнам горада — што рагочаце? — стала "Яблычка, куды коцішся".

●

Адкрыў кіёск. Адразу заявіліся рэкеціры. Адзін прапанаваў дах над галавой, другі — глебу пад нагамі, трэці паабяцаў перакрыць паветра. Нацкаваў іх адзін на аднаго — хай разбіраюцца, хто галоўны, а я сабе, думаю, пагандлюю. Дык не, навалiліся кантралёры — ад выканкома, ад санэпідстанцыі, ад міліцыі, ад гандлёвай інспекцыі, ад падатковай службы, ад саюза спажыўцоў, ад пажарнікаў. Божачка, колькі іх — і кожнаму дай, ад кожнага адкупіся. Дык што ж — рэкет дзяржаўны? Ды гары ён гарам, той кіёск, хай падпальваюць сапраўдныя рэкеціры!

●

Акіян Атлантыды не праглынаў, Бог пазбавіў народ яе мовы, і гэтага аказалася дастатковым, каб мацярык зусім прапаў... Трэцяе тысячагоддзе, толькі гусі нешта гагочуць аб Беларусі, нешта крычаць на сваёй мове, адно што вымавіць не могуць.

●

Скарацілі штатную адзінку дворніка, а ўборку ўсклалі на інжынераў. Дык чатыры спецыялісты рабілі горш, чым адзін пенсіянер. Згрэблі смецце ў двары і падпалілі, каб сэканоміць на вывазцы. Прыехалі пажарнікі і наклалі штраф. Штраф перавысіў кошт зберажонага паліва. А інжынеры яшчэ падалі заявы ў прафком, што працуюць не па профілі.

— Давайце вернем дворніка, — сказаў дырэктар. — Пра скарачэнне штатаў ужо даладжылі. Прэмію за эканомію бензіну ўсё адно дадуць. Штраф заплацім з бюджэтных сродкаў, адпушчаных на забруджванне паветра. А інжынеры возьмуць свае заявы назад.

Разумны чалавек наш дырэктар.

●

Па вялікім рахунку я маленькі чалавек. А па якім — з вялікай літары?

ЛіМ ЛІТАРАТУРАІМАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | (1932-35) |
| *І.Гурскі* | (1935-41) |
| *А.Куляшоў* | (1945-46) |
| *М.Горцаў* | (1947-49) |
| *П.Кавалёў* | (1949-50) |
| *В.Вітка* | (1951-57) |
| *М.Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я.Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н.Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л.Прокша* | (1969-72) |
| *Х.Жычка* | (1972-76) |
| *А.Асіпенка* | (1976-80) |
| *А.Жук* | (1980-86) |
| *А.Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:** Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара*, Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 332-204**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма "Дайнова"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 7500.
Нумар падпісаны 15.2.1996 г.
Заказ 807/Г

П 123456789101112
М 123456789101112